Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

9 красавіка 2004 года

№ 15 (468)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




Тэлетыдзень 18
Поўныя праграмы «Расія» і «НТВ»

# Прайшоў Дзень птушак

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзіцячы сад №25 не першы год паглыблена займаецца экалагічным выхаваннем. 4 красавіка там святкавалі Дзень птушак.**

Бацькі выхаванцаў **Мікалай Папрукайла, Наталля Лебядзінская** і **Віктар Стасевіч** арганізавалі выставу малюнкаў, сярод якіх былі птушка 2003 года — гарадскі верабей і птушка 2004 года — гарадская ластаўка. Бацькі **Міхаіл Зянько, Таіса Шапцябой** і **Ганна Папрукайла** прымалі ўдзел у арганізацыі гульняў з дзецьмі. Адказнымі за свята былі дзеці 3-4 гадоў, якія з гонарам чыталі вершы, з захапленнем спявалі песні і вадзілі карагоды. Тата Марыны Віхлянцавай Дзмітрый Віхлянцаў зрабіў шпакоўню. Дзеці дапамагалі знайсці належнае месца для птушынага доміка, сачылі за тым, як яго замацоўвалі на бярозе. Цяпер з нецярпеннем чакаюць навасёлаў.

Работа па экалагічным выхаванні ў садзе вялася на працягу года. Кожны дзень дзеці назіралі за птушкамі на «птушыным слупе» (былая таполя, ад якой застаўся трохметровы слуп, да якога прымацаваны шпакоўня і разнастайны корм). Узімку птушкі ніколі не былі галодныя на пляцоўках сада: іх заўсёды частавалі дарослыя і дзеці.

У бліжэйшы час дзіцячы сад плануе наладзіць супрацоўніцтва з грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Беларусі» і стаць яе сябрам.

Алена КІЗІЦКАЯ.



Маладзечанец Дзмітрый Віхлянцаў зрабіў шпакоўню і павесіў яе на бярозе паблізу дзіцячага сада №25, дзе выхоўваецца яго дачка Марына. Акцыя адбылася ў прысутнасці дзетак і работнікаў сада 2 красавіка – незадоўга да Сусветнага дня птушак.

Фота Алены КІЗІЦКАЙ.

**ДАВЕДКА.**
**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Беларусі» (АПБ) — дабрачынная арганізацыя, якая была заснавана ў 1998 годзе дзеля захавання біялагічнай разнастайнасці. Адна з дамбаў, пабудаваных летам 2002 года для выратавання ад пажараў балота Ельня на Віцебшчыне, была ўзведзеная цалкам за кошт узносаў сяброў АПБ.**

Мы разумеем, – гаворыцца ў праграмных дакументах арганізацыі "Ахова птушак Беларусі", – што немагчыма адразу вырашыць усе экалагічныя праблемы, якія паўстаюць сёння, раз і назаўсёды выратаваць ўсіх птушак, якім пагражае небяспека. Але мы гатовы рабіць гэта, гатовы дапамагчы ўсвядоміць кожнаму, што не толькі ад яго дзеяннаў, але і ад яго светапогляду сёння залежыць багацце і разнастайнасць жывёльнага свету нашага заўтра, будучыня нашай краіны — Беларусі.

htpp://apb.iatp.by

## Навіны рэгіёну




### Гай замест градаў

**МЯДЗЕЛ.** У мінулую суботу ў цэнтры горада на месцы агародаў па ініцыятыве аддзела па справах моладзі райвыканкама мядзельскія хлопцы і дзяўчаты пасадзілі 100 бярозак. Саджанцы выдзеліў нацыянальны парк «Нарачанскі».

Святлана ЦІШКО.

### Збіраліся асы

**ВАЛОЖЫН.** У івянецкім Польскім доме прайшоў рэгіянальны конкурс для школьнікаў "Ас арфаграфіі". Праводзілі яго прадстаўнікі пасольства Польшчы і Саюза палякаў.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### У Іспанію і Польшчу

**ВІЛЕЙКА.** Тры тыдні ў Іспаніі і Польшчы адпачнуць дзеці 7-12 гадоў. Гэта дзеці-інваліды III групы, а таксама хлопчыкі і дзяўчынкі з няпоўных, шматдзетных і апякунскіх сем'яў.

Ірына РАБУШКА.

### Для навучэнцаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Акцёры тэатра лялек «Батлейка» сустрэліся з іншагароднімі навучэнцамі мясцовага гандлёва-эканамічнага каледжа. Адначасова працавала выстава лялек і архіўных фотаздымкаў.

Ірына РАБУШКА.

### Сам падпаліў

**АСТРАВЕЦ.** У Лошы згарэла 6 тон фуражу. Гаспадар, займаючыся ўборкай саду, згроб старое лісце ў кучы і запаліў. Вецер перакінуў агонь на хлеў.

Ірына РАБУШКА.

### Пад новым дахам

**АШМЯНЫ.** Харчовы мінірынак адчыніўся ў былым тэхналагічным будынку райбыткамбіната, які выкупіў прадпрымальнік Рамуальд Улан. Пасля рамонту тут сталі працаваць 9 прадпрымальнікаў.

Мікола ГАЙДУК.

### «Творцы з Вётхава»

**СМАРГОНЬ.** Такая выстава адкрылася ў музеі. Прысвечана яна літаратуразнаўцу Арсенію Лісу і настаўніку маляванняў Паўлу Южыку.

Марына СЛІЖ.



**Выпраўленне недакладнасці.** У мінулым нумары "РГ" у інфармацыі "Згарэў дашчэнту" гаварылася, што за апошнія 3 месяцы на Вілейшчыне ў пажарах загінулі 15 чалавек. На самой справе ў гэты час загінула 5 чалавек.

### Музыка выбрала яго



Найбольш выразныя ўспаміны прафесара Міхаіла Казінца звязаныя з яго дзедам Януком, які навучыў будучага маэстра араць, касіць. Міхась марыў стаць шафёрам. А стаў – рэктарам акадэміі музыкі, прафесарам і кіраўніком аркестра імя Жыновіча.

2-я старонка

# Музыка выбрала яго

## Дадатковыя лінейкі з жыцця прафесара Міхаіла Казінца

**ВІЛЕЙКА. Не так даўно чарговы раз у Палацы культуры гучала музыка ў выкананні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца. Але на гэты раз канцэрт быў асаблівым – ён прысвячаўся пяцідзесяцігоддзю Вілейскай школы мастацтваў. А сам Міхаіл Антонавіч калісьці скончыў гэтую школу.**

Сёння Міхаіл Казінец жыве ў Мінску, кіруе двума аркестрамі (яшчэ і сімфанічным аркестрам Акадэміі музыкі "Маладая Беларусь"), з'яўляецца рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Я вучуся ў сталіцы. Аднак сустрэліся мы менавіта ў Вілейцы, дзе і пачалі размову.



Міхаіл Казінец. Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.

### Гармонік, трактар і каса

Міхаіл Антонавіч нарадзіўся ў простай сялянскай сям'і, аднак гэта не перашкаджала ёй быць у той жа час вельмі музычнай. Дзед Янук іграў на скрыпцы, а маці Міхаіла, Людміла Антонаўна, спявала беларускія народныя песні, адтуль хлопчык і пераняў любоў да фальклору. У роднай вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна Міхаіл сам навучыўся іграць на гармоніку. Цікава, што ён не мог нідзе пачуць прафесійнага выканання музычных твораў, бо вёска была без электрычнасці і не існавала нават магчымасці паслухаць музыку па радыё. Ужо тады Міхаіл больш часу праводзіў з гармонікам, чым у школьным класе: пастаянныя ўдзелы ў мастацкай самадзейнасці, дэманстрацыях, розныя вечарыны і канцэрты.

Сёння Міхаіл Антонавіч з задавальненнем узгадвае дзяцінства. І найбольш выразныя ўспаміны звязаны з дзедам Януком. Ён навучыў хлопца катацца на ровары, шмат чаго яму дараваў. Перадаў навуку араць, касіць, ды так, што хлопчык лічыў сябе выдатным касцом. Маці навучыла яго жаць. Дзіцячыя ўспаміны звязаны таксама і з трактарам. Гэта было вялікае шчасце пабегаць за ім па полі, пасядзець на прычэпе, а трактарыст уяўляўся своеасаблівым героем. Міхаіл Казінец марыў стаць шафёрам. Калі да іх у вёску дзесьці раз ў паўгода прыязджала машына, то хлопцы беглі за ёй, каб падыхаць яе дымам, пылам, што ўздымаўся клубамі з-пад шурпатых колаў.

### Музыка па нотах

Пасля сканчэння сямігодкі ў 1952 годзе Міхаіл пайшоў у восьмы клас сярэдняй школы №1 у Вілейцы. У той жа год ён пайшоў у музычную школу, дзе пачаў іграць на баяне. Хлопцу было ўжо чатырнаццаць гадоў, а большасці з выхаванцаў – усяго каля сямі. Аднак гэта не было перашкодай у іх адносінах. Вайна шмат чаго перабылтала, таму такая з'ява не была незвычайнай. Музычную школу Міхаіл скончыў за тры гады: з першага класа перайшоў у трэці, а з трэцяга адразу ў выпускны пяты. Мабыць, дапамагла музычная самаадукацыя, уменне іграць на слыху, ды і ўзрост дазваляў засвойваць інфармацыю значна хутчэй за астатніх вучняў. Аднак вельмі цяжкасць складала ігра па нотах. Няпроста было зразумець, якія ноты пішуцца над лінейкамі, якія – пад імі. Асабліва цяжка даводзілася з дадатковымі лінейкамі. Міхаіл Антонавіч прызнаецца, што калі партыю для правай рукі вывучваў па нотах, то левай падбіраў сам.

Затым з 1956 па 1960 гады была вучоба ў Віцебскім музычным вучылішчы. Толькі тады юнаму музыканту давялося пачуць ігру сімфанічнага аркестра ў жывым гучанні. А ўвогуле, галоўным сродкам музычнай інфармацыйнасці было радыё. Але Міхаіл Антонавіч усё роўна лічыць той час вельмі цікавым і музычна насычаным, бо ён сам амаль ніколі не развітваўся з інструментам.

### Пасол культуры беларускай

Пасля скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю спачатку па класе баяна, а затым факультэт оперна-сімфанічнага дырыжыравання. І ўжо калі ў 1972 годзе Міхаіл Казінец быў на 4 курсе вучобы на другой спецыяльнасці, Іосіф Жыновіч запрасіў яго, як музыканта, які падае вялікія надзеі, дырыжорам да сябе ў аркестр. А ў 1975 годзе малады музыкант стаў і яго мастацкім кіраўніком. Міхаіл Антонавіч лічыць, што менавіта праз аркестр ён пазнаў свет: *"І калі нейкае ў мяне імя ёсць, то, безумоўна, гэта дзякуючы таму, што лёс мне даў магчымасць працаваць у такім выдатным аркестры. Я лічу, што гэта інструментальны голас зямлі беларускай"*. Дарэчы, гэта адзіны ў свеце прафесійны аркестр беларускіх народных інструментаў.

Калектыў аркестра аб'ездзіў з канцэртамі ўвесь былы Савецкі Саюз: ад Мурманска да Уладзівастока, ад Магадана і да Кушкі. Бывалі часы, калі музыканты гастралявалі па 6-7 месяцаў за межамі Беларусі. Яны пабывалі ў Германіі, Польшчы, Кітаі, Турцыі, Румыніі, Індыі. Аркестр з'яўляецца як бы пасрэднікам паміж Беларуссю і іншымі краінамі, паслом культуры нашай краіны за мяжой. Праз яго іншаземцы даведваюцца пра Беларусь. Аднойчы Міхаілу Антонавічу давялося для дзесяцітысячнай плошчы слухачоў у Боне растлумачваць, што ёсць такая краіна ў цэнтры Еўропы і завецца яна не Weisrusland, а Беларусь.

Выступленні перад аўдыторыяй – заўсёды асалода. А калі гэта яшчэ і землякі, то прыемна ўдвая, але ж узрастае і адказнасць перад публікай. Міхаіл Казінец кажа: *"Мы часам не ведаем, які адукаваны слухач, калі ён сустракаецца з сапраўдным мастацтвам. Калі гады 3-4 назад аркестр "Маладая Беларусь" прыязджаў у Вілейку з "9-й сімфоніяй" Бетховена, было паўтары гадзіны вялікай цішыні. А падканец зала апладзіравала ад душы, ён усё зразумеў, таму што музыка вялікая. І гэта мяне ўразіла. Многае ўва мне самім пахіснулася. І цяпер я не баюся паказаць музыку, якая на першы погляд можа падацца незразумелай. Калі гэта сапраўдная музыка, вялікія пачуцці з выдатнай гармоніяй і выкананнем, яны заўсёды знойдуць адэкватныя адчуванні ў слухача"*.

### Шчаслівы чалавек

Міхаіл Антонавіч кажа, што вельмі добра патрапіў у прафесію, нават яна сама выбрала яго. І цяпер вельмі цяжка сказаць, чым бы ён займаўся, каб не музыка. Аднак ёсць у яго яшчэ адна любімая справа – земляробства. Дача – гэта тое месца, дзе можна адпачыць ад прафесіі, пабыць дзіцем прыроды. Але і тут у час водпуску Міхаіл Антонавіч пакрыху рыхтуецца да наступнага канцэртнага сезона. Для яго вялікае шчасце мець магчымасць пераключыцца з зямлі на партытуру і наадварот.

Дачка Міхаіла Казінца, Вікторыя, пайшла па шляху бацькі і звязала сваё жыццё з музыкай. Сын Юрый хоць і скончыў на выдатна музычную школу, аднак прафесію набыў на універсітэце інфарматыкі. А ўнукі ўжо, як кажа сам Міхаіл Антонавіч, музыкай не цікавяцца.

Увогуле, Міхаіл Казінец – гэта той чалавек, які зараджае добрым настроем. Ды што тут казаць, калі на пытанне "Ці лічыце Вы сябе шчаслівым?", ён адказвае "Так. Безумоўна".

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

# Словам шчырым адгукнецца

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанская раённая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма мае даўнюю і трывалую сувязь з пісьменніцкай арганізацыяй нашай краіны. За мінулы месяц яе работнікі арганізавалі некалькі літаратурных вечароў, сустрэч з выдатнымі дзеячамі беларускай культуры і літаратуры.**

У пачатку сакавіка ў госці да чытачоў Радашкавіцкай гарпасялковай бібліятэкі завіталі галоўны рэдактар гумарыстычнага часопіса "Вожык" пісьменнік Алесь Пісьмянкоў і бард Пётр Русаў. Сустрэча адбылася шчырая і сардэчная. Вершы, якія арганічна перапляталіся з аповедам пра асабістае жыццё, гукі гітары стваралі атмасферу цеплыні, узаемаразумення і пачуццёвага адзінства. Напрыканцы вечарыны прысутныя мелі унікальную магчымасць набыць кнігі гасцей і атрымаць аўтографы.

Праз некалькі дзён у памяшканні Вязынкаўскай сельскай бібліятэкі прайшла цікавая сустрэча з пісьменніцай, кіраўніком творчага аб'яднання "Літаратурнае прадмесце" Людмілай Рублеўскай і яе маладымі сябрамі Алесем Спіцыным, Аксанай Спрынчан і Вікай Трэнас. Вучні і настаўнікі мясцовай школы ўважліва слухалі выступленні пісьменнікаў, шчыра рэагавалі на розныя здарэнні, што адбываліся ў іх жыцці. А потым задавалі разнастайныя пытанні пра жыццё і творчасць.

Такія сустрэчы не праходзяць бясследна. Яны прымушаюць задумацца аб сэнсе быцця, аб вечным-і часовым, аб месцы літаратуры ў жыцці чалавецтва і аб лёсе роднай мовы. Дапамагаюць словам шчырым адгукнуцца ў наступных пакаленнях.

**Наталля ПЛОТАВА.**

■ **ДУМКІ ЎСЛЫХ**

### Андрэй, верабей...

Па тэрыторыі дзіцячага сада гаманлівай чародкай бегалі дзеці. Раптам ад вясёлага, шумнага гурта аддзялілася рослая дзяўчынка ў зялёнай шапачцы і тоненькім галаском не сказала, прапела: "Андрэй, верабей, на кані катаўся".

"Света, супакойся, а то тату раскажу", — сярдзітым голасам папярэдзіла выхавальніца і пагладзіла па галоўцы хлопчыка, што стаяў побач. Напэўна, гэта Андрэй, падумала я і не змагла стрымаць усмешкі. У дзяцінстве, якое цяпер здаецца такім далёкім, гэтымі самымі словамі сама дражніла брата.

"Мам, а з мяне дзеці ў школе смяюцца, — гэта ўжо скардзіцца на жыццё мой сын-першакласнік. Кажуць, Сліж, зараз мы на табе пакатаемся". "А хто так кажа?" — цікаўлюся я. "Бычкоўскі," — з гатоўнасцю адказвае ён. "Сліж, гэта рыба, — тлумачу яму я, — а вось на Бычкоўскім і сапраўды можна пакатацца".

Закончыць школу і застацца без мянушкі немагчыма. Прычым дастаецца як дзецям, так і педагогам. Настаўніка гісторыі, які нікому не даваў спуску, вучні навывалі Феадальны Гад, а геаграфічку — Муха цэ-цэ. Выкладчык чарчэння меў гонар насіць мянушку Цыркуль, прыбіральшчыца — Швабра, а настаўніка фізкультуры ўсе называлі Гантэль.

Славіцца мянушкамі і наша беларуская вёска. Прыедзьце, напрыклад, у тыя ж Гарадзькі, што ў Валожынскім раёне, і папрабуйце спытаць у першага сустрэчнага, дзе жывуць Станкевічы. "А вам каго, Азерскіх, Пахомчыкавых, Ануфрэевых, Бландзінаў, Зайчыкавых, Іванавых, Афіцэравых?" — тут жа спытаюцца ў вас, бо даўно ўжо прывыклі адрозніваць аднафамільцаў не па імёнах, а па мянушках, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Ганькай Азерскай, хоць мела сапраўднае прозвішча Станкевіч, была мая бабуля, гэтак жа называлі бацьку, клічуць маці, брата. І пляменнікам яго, а маім дзецям, кажуць на вуліцы ўслед: "Гэта ж Азерскія Пашка і Максім". "Я таксама буду ў вашай кагорце?" — неяк пажартаваў муж. "Навошта, ты ж Гарачкаў", — у тон яму адказала я, бо маю свякроў таксама ніколі не завуць па прозвішчы. Колькі ведаю яе – столькі яна Галя Гарачкава.

Падчас камандзіроўкі ў адну з вёсак раёна папрасіла вясковага дзядка палічыць, колькі ў іх засталося жылых хат. "Мікіціха, Чарачка, Нутрыя, Сюля, Гейдра, Касманаўт, Артыстка", — загінаючы пальцы пачаў лічыць ён. "А Артыстка як прозвішча?" — спыталася ў яго знянацку. "Ці ж я ведаю, — хітравата ўсміхнуўся дзед. — І пянеркай Артысткай звалі, і пенсіянеркай так клічуць. Можа, сама і памятае. А мне нашто?"



**Разважала Марына СЛІЖ.**

# Эканоміка пакуль жывая

## І гэты шанс трэба скарыстаць

**МАЛАДЗЕЧНА. Такой думкі прытрымліваецца экс-старшыня нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч. Аб гэтым ён сказаў карэспандэнту "Рэгіянальнай газеты" падчас гутаркі ў сценах рэдакцыі.**

У мінулую суботу ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" наведаліся прадстаўнікі кааліцыі "Пяць плюс". Размова ішла аб палітычнай сітуацыі ў краіне, аб месцы Беларусі ў міжнароднай супольнасці.

Наш зямляк ганаровы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч даў кароткае інтэрв'ю "Рэгіянальнай газеце".

Ён расказаў аб нядаўнім візіце дэлегацыі дзесяці беларускіх палітыкаў, сярод якіх былі дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Беларусі Вольга Абрамава, Станіслаў Багданкевіч, лідэр партыі працы Аляксандр Бухвостаў, лідэр Народнай грамады Мікалай Статкевіч. Беларусы прыбылі па запрашэнні расійскіх палітыкаў, блізкіх да атачэння Уладзіміра Пуціна. Сустрэчу папераменна вялі старшыня фонду "Палітыка" Анатоль Нікануў і Сяргей Караганаў, старшыня Савета па знешняй і абароннай палітыцы.

Па словах Багданкевіча, Караганаў у адным са сваіх выступленняў гаварыў, што дасягнуць злучэння Расіі і Беларусі ва ўмовах праўлення Лукашэнкі немагчыма. І гэта ёсць пункт гледжання Пуціна. Шмат было ўдзелена ўвагі апошняму "газаваму скандалу".

Станіслаў Багданкевіч сказаў карэспандэнту "РГ", што яго пазіцыя адносна газу – пралукашэнкаўская: "Расія сваімі дзеяннямі падыграла расійскім шавіністам".

На думку Багданкевіча, даўшы магчымасць беларускім палітыкам выступаць на расійскім тэлебачанні, можна дабіцца куды больш дзеля перамен у адносінах Расіі і Беларусі, чым перакрыццё газу.

Думкі расіян на гэтай сустрэчы не былі аднолькавымі. Былы расійскі дыпламат Анатоль Адамішын, напрыклад, зазначыў, што атачэнне Пуціна неаднароднае. Некаторыя прадстаўнікі сілавых структур лічаць, што для Расіі вельмі важная прысутнасць расійскіх ваенных баз (у тым ліку ля Вілейкі– рэд.). Нікануў жа не пагадзіўся, сказаўшы, што ў сённяшняй Еўропе няма пагрозы для Расіі, а функцыі баз ля Ганцавічаў і Вілейкі могуць выконваць і іншыя.

На маскоўскай сустрэчы шмат гаварылася аб эканоміцы дзвюх краін. Пераважная большасць выступоўцаў пагаджалася з тым, што сёння адсутнічае аднатыповасць рынкавых эканомік. У Беларусі, у адрозненне ад Расіі, рынкавыя рэформы тармозяцца.

На думку Станіслава Багданкевіча, і пра гэтае ён сказаў у рэдакцыі "РГ", Беларусі патрэбны час, каб навярстаць упушчанае. Мы адстаём у рынкавых пераўтварэннях ад нашых суседзяў. Таму не трэба імкнуцца неадкладна ў саюз з Расіяй, але таксама нельга неадкладна ісці і ў Еўрапейскі саюз:

"Нейтралітэт –канстытуцыйная норма. І мы ў Аб'яднанай грамадзянскай партыі прытрымліваемся гэтага і не выступаем за неадкладнае ўваходжанне Беларусі ў нейкія блокі, у тым ліку і НАТО".

На пытанне карэспандэнта, ці ёсць пры сустрэчах з простымі грамадзянамі складаныя пытанні для яго, Станіслаў Багданкевіч сказаў, што такіх пытанняў няма. Пацікавіліся мы і адносінамі да магчымай адзінай валюты Беларусі і Расіі. Былы старшыня Нацбанка сказаў, што вырашэнне пытання агульнай валюты проста трэба адкласці гадоў на 10. А там будзе бачна, што рабіць агульнай валютай – расійскі рубель, а можа быць, і еўра:

— У нас з Расіяй няма аднастайнасці ў заканадаўствах. Падаткі, прыкладам, на 9 працэнтных пунктаў вышэйшыя, чым у Расіі. Не створаныя і іншыя ўмовы для злучэння. Працэс збліжэння краін у Еўропе патрабаваў стварэння ажно 5 спецыяльных агульных фондаў, якія спрасцілі і спрашчаюць уваходжанне ў Еўрасаюз новых членаў. Такіх фондаў, як, напрыклад, для падтрымкі сельскай гаспадаркі ў адсталых краінах.

Станіслаў Багданкевіч урэшце ўпэўніў, што калі справа дойдзе да рэформаў, у нас будзе каму іх праводзіць:

– У нас у сярэднім звяне кіравання ёсць адукаваныя спецыялісты. Я не кажу, што ўсе. Хай сабе 10% кваліфікаваных адукаваных кадраў. Але іх дастаткова, каб праводзіць рэформы. Што яны ёсць, мяркую хаця б па тым, колькі і якіх мне паступае дысертацый ад маладых навукоўцаў на разгляд.

Ведаеце, цяпер з пад'езда не выйсці – столькі аўтамабіляў настаўлена. Значыць эканоміка да гэтага часу ў Беларусі жыве.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



Станіслаў Багданкевіч у рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» ў суботу, 3 красавіка.

Фота Яўгені МАНЦЭВІЧ.

### Станіслаў Багданкевіч

**Старшыня назіральнага савета Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, доктар эканамічных навук, прафесар.**

**Нарадзіўся 1 студзеня 1937 года ў вёсцы Шапавалы ў сённяшнім Валожынскім раёне.**

**Працаваў у банкаўскіх установах. У тым ліку ў Маладзечне.**

**У 1991 – 1995 – старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі.**

**Быў кіраўніком ад Беларусі ў Міжнародным валютным фондзе і Еўрапейскім банку развіцця і рэканструкцыі.**

**Галоўны распрацоўшчык беларускага банкаўскага заканадаўства і незалежнай грашова-крэдытнай і банкаўскай сістэмы.**

**Дэпутат Вярхоўнага Савета 13 склікання.**

**Ад 2000 года – ганаровы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Мае трох сыноў. У Маладзечне ў Станіслава Багданкевіча жывуць дзве сястры, пахаваныя бацькі і брат.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 1.4 руб. | 8.4 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2150,00 | 2152,00 |
| Еўра | 2629,77 | 2599,51 |
| Злоты | 556,06 | 550,88 |
| Літ | 761,93 | 752,91 |
| Расійскі рубель | 75,40 | 75,43 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

### Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 31.4 | 7.4 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2700 | 3000 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1510 | 1510 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2300 | 2300 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1150 | 1150 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 900 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1150 | 1000 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 250 |
| Морква, 1 кг | 400 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 2600 |
| Апельсіны, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1050 | 1200 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 2800 | 3300 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 2400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |

■ **У СТАЛІЦЫ**

## Паркоўка ў Мінску

**МІНСК. У адпаведнасці з зацверджанай дэпутатамі Мінгарсавета праграмай развіцця аўтастаянак і паркованак у Мінску на 2004—2006 гады, прадугледжана стварэнне ў пяць этапаў у цэнтры сталіцы і на прылеглых вуліцах зоны платных паркованак.**

Як зазначаецца ў дакуменце, падчас першага этапа плануецца абсталяванне тэрыторый пад стаянкі, абмежаваных праспектам Скарыны, вуліцамі Няміга, Леніна, Гарадскі Вал.

**Паводле БелаПАН.**

## Новая АТС

**МАЛАДЗЕЧНА. Новае абсталяванне з праграмным забеспячэннем пачало працаваць на раённым вузле сувязі.**

У сувязі з пераабсталяваннем нумары кватэрных тэлефонаў у шостым мікраёне (вуліцы Крынічная, Гарадоцкая, Вялікі Гасцінец) цяпер пачынаюцца з лічбы 4. "У 1997 годзе, — сказаў начальнік вузла электрасувязі Леанід Валатовіч, — для шостага мікраёна наладжвалі АТС-3. Але раён развіваўся, цяпер раней-шых магутнасцей недастаткова". Нумары з "тройкай", сказаў ён, будуць дадавацца ў Заліменым раёне, раёне Старога Места і завода парашковай металургіі.

Старую АТС-7 (нумары тэлефонаў пачынаюцца з "7"), якая адпрацавала 45 гадоў, разбяруць на чорныя, каляровыя, каштоўныя металы.

Новая АТС, па словах Леаніда Валатовіча, дазваляе аказваць каля 40 новых відаў паслуг. У тым ліку і хуткасны шырокапалосны доступ у Інтэрнэт па тэхналогіі ADSL, якая дазваляе адначасова карыстацца Інтэрнэтам і размаўляць па тэлефоне. На гэтую паслугу ў горадзе могуць разлічваць 16 абанентаў.

**Святлана ЦІШКО.**

# Паксаса адставілі

## Прэзідэнта Літвы адправілі ў адстаўку, нягледзячы на ўсе яго прабачэнні

**ВІЛЬНЯ. Прэзідэнт Літвы Раландас Паксас павінен пайсці ў адстаўку. Як паведамляе міжнароднае інфармацыйнае агенцтва Reuters, такое рашэнне прыняў Сейм Літвы на пасяджэнні ў аўторак, 6 красавіка. Прэзідэнта, які 7 студзеня мінулага года перамог у прэзідэнцкіх выбарах, абвінавачваюць у карупцыі і парушэнні Канстытуцыі.**

У ходзе гэтага пасяджэння Паксас перапрасіў за дапушчаныя ім памылкі і заклікаў "не баяцца іх папраўляць". Як паведаміла інфармацыйнае агенцтва "Інтэрфакс", ён заклікаў парламентарыяў задумацца, ці сапраўды зробленыя ім за год прэзідэнцтва "некалькі памылак" заслугоўваюць імпічмэнту.

Паксас таксама абвергнуў усе абвінавачванні камісіі па імпічмэнце, хаця яны былі пацверджаныя вывадамі Канстытуцыйнага суда і часовай парламенцкай камісіі. "Ніводным сваім дзеяннем я не нанёс шкоду дзяржаве", – заявіў прэзідэнт.

Між тым, згодна з рашэннем Канстытуцыйнага суда, ён сапраўды парушыў асноўны закон краіны, даўшы грамадзянства Літоўскай Рэспублікі бізнэсмэну Юрыю Барысаву, які на выбарах аказаў яму фінансавую падтрымку. Суд указаў, што Паксас наўмысна даў зразумець Барысаву, што праваахоўныя органы праводзяць расследаванне ў адносінах да прадпрымальніка. Ён таксама даў указанні свайму дарадцу Вісвалдасу Рачкаўскасу скарыстацца службовым становішчам і паўплываць на рашэнне кіраўнікоў і акцыянераў ЗАТ Zemaitijos keliai, каб яны перадалі акцыі блізкім да Паксаса асобам. Суд падкрэсліў, што тым самым Раландас Паксас парушыў прэзідэнцкую прысягу.



Вільня, 8 студзеня 2003 года. Раландас Паксас перамог у прэзідэнцкіх выбарах напярэдадні.
Фота Уладзіміраса ІВАНОВАСА.

Па дадзеных інфармагенцтва, выступаючы перад дэпутатамі Сейма 6 красавіка, Паксас сцвярджаў, што ягоныя папярэднікі – былыя прэзідэнты Літвы – сотні разоў незаконна давалі літоўскае грамадзянства замежнікам. Акрамя таго, ён абвінаваціў спецслужбы за ўдзел у палітычных працэсах, а палітыкаў – у прымяненні падвойных стандартаў, парушэнні законаў, раскрыцці дзяржаўных тайнаў, страце сакрэтных дакументаў.

Падкрэсліўшы, што імпічмэнт з'яўляецца "беспрэцэдэнтнай з'явай у гісторыі Еўропы", Паксас заявіў, што ён дастойна прыме любое рашэнне парламента. Аднак пераканаць дэпутатаў Сейма ў тым, што ён як прэзідэнт заслугоўвае даверу, Паксас не здолеў. Большасцю галасоў ён быў прызнаны вінаватым ў парушэнні Канстытуцыі.

Чакаецца, што выбары новага прэзідэнта Літвы пройдуць ў пачатку мая. Па меркаванні аналітыкаў, не выключана, што Паксас выставіць сваю кандыдатуру на гэтых выбарах. Не выключана таксама, што Генеральная пракуратура ўзбудзіць крымінальную справу па матэрыялах камісіі па імпічмэнце.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

**Даведка.** Раландас Паксас. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў горадзе Цяльшай. У 1979 скончыў Віленскі інжынерна–будаўнічы інстытут. У 1984 – Ленінградскую акадэмію грамадзянскай авіяцыі. Інжынер–пілот. Сур'ёзная палітычная кар'ера пачалася ў 1997 годзе. У ходзе выбарчай кампаніі актыўна выкарыстоўваў імідж прафесійнага лётчыка. Зрабіў акрабатычны пералёт над Віліяй каля Вільні.

■ ПОСТ ДАІ

### Руш насустрач

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошні дзень сакавіка адзначыўся абвастрэннем дарожнага становішча.**

Каля 7 гадзін раніцы 31 сакавіка работнік маладзечанскага мэблевага цэнтра (ММЦ) Леанід З. на аўтамашыне "Фольксваген–Гольф" ехаў па Вялікім Гасцінцы ў напрамку Смаргоні. Каля аўтобуснага прыпынку ля швейнай фабрыкі "Юнона" пры перастраенні сутыкнуўся з машынай ВАЗ–2101 пад кіраваннем работніка ММЦ Аляксандра Б. У здарэнні пацярпеў работнік гэтага ж прадпрыемства Іван Ч. Яго шпіталізавалі з пераломам галёнкі ў гарбальніцу.

У гэты самы дзень каля 14.30 вадзіцель прадпрыемства "Будмаш" маладзечанец Юры П., кіруючы аўтамашынай ГАЗ–53 па аўтадарозе Смаргонь–Маладзечна ў кірунку Маладзечна, на 14–м км наехаў на пешахода Сяргея К., які рухаўся па абочыне ў спадарожным накірунку. Вынік – закрыты аскольчаты перапом левага пляча. Праверку па здарэнні праводзіць крымінальна–следчы камітэт.

Згодна з правіламі дарожнага руху, пешаходы абавязаныя рухацца па тратуарах, пешаходных або веласіпедных дарожках, а ў выпадку іх адсутнасці – па краі праезнай часткі дарогі насустрач руху транспарту.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар ДАІ.**

### Тыдзень бяспекі

**Ад 5 па 11 красавіка ў Беларусі праходзіць тыдзень бяспекі дарожнага руху, аб'яўлены Камітэтам па ўнутраным транспарце Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН.**

Як паведаміў начальнік аддзела дарожна-патрульнай службы ўпраўлення дзяржаўтаінспекцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Аляксандр Свярчынскі, у рамках тыдня сярод удзельнікаў дарожнага руху пройдзе прафілактычная кампанія па «спакойных, паважлівых і ветлівых паводзінах на дарогах» пад дэвізам: «Узаемная павага на дарозе — залог бяспекі». Праграмай мерапрыемства кампаніі прадугледжана распрацоўка і зацвярджэнне галіновых і рэгіянальных праграм па прафілактыцы аварыйнасці на транспарце, правядзенне аналізу транспартнай дысцыпліны за апошнія пяць гадоў, аналізу дарожнага руху ў месцах масавага руху пешаходаў. Акрамя таго, будзе арганізаваны масавы перадрэйсавы кантроль вадзіцеляў.

**Кожныя суткі на дарогах краіны ў сярэднім гінуць пяць чалавек і атрымліваюць раненні да 20 чалавек. Асноўнай прычынай дарожна-транспартных здарэнняў, паводле яго слоў, з'яўляецца кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення. У 2003 годзе па гэтай прычыне здзейснена 721 ДТЗ, пры гэтым загінула 178 чалавек.**

У рамках дзеючага заканадаўства, зазначыў Аляксандр Свярчынскі, было прынята рашэнне аб прымяненні самых строгіх правілаў за кіраванне аўтмабілем у стане алкагольнага ап'янення: пазбаўленне вадзіцельскіх правоў.

**Паводле БелаПАН.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

### Залезлі ў дом

**МАЛАДЗЕЧНА. Зладзеі выбілі шыбу і залезлі ў дом, што ў Заскавічах.**

Больш за месяц у доме, які выкарыстоўваўся як дача, нікога не было. Зладзеі забралі вярблюджую коўдру, настольны свяцільнік, два пакрывалы на крэслы.

### Узламалі замок

МАЛАДЗЕЧНА. У Гарадку са склепа выкралі прыкладна 80 кілаграмаў бульбы, буракі, алюмініевую біклагу.

### Забраў выручку

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэцяга красавіка ў адным з шапікаў паблізу калгаснага рынку невядомы завалодаў выручкай у 103 тысячы 800 рублёў.**

Ён выкарыстаў момант, калі не было прадаўца. Невядомы выбіў шкло ў фортцы.

### З наганам

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак на вуліцы Ф.Скарыны паблізу кафэ «Блюз» затрымалі грамадзяніна Украіны, які меў пры сабе рэвальвер сістэмы «Наган» і 50 патронаў да яго.**

Украінец прыехаў у Маладзечна да сваякоў. Ён з'яўляецца пасрэднікам па продажы зброі. Наган у яго канфіскавалі. Парушальнік закону знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Узбуджана крымінальная справа.

### Знялі дзверы

**МАЛАДЗЕЧНА. У магазіне №61 па вуліцы Ф.Скарыны двое выкралі ўваходныя дзверы.**

Гэта адбылося акурат напрыканцы рабочага дня, каля 10 гадзін вечара. 17-гадовага злодзея затрымалі, 20-гадовага шукаюць.

### Злодзей ва ўзросце

**МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Раёўка 64–гадовы вясковец выкраў 8 курэй.**

Некалькі курак ён паспеў з'есці і прадаць. Астатніх вярнулі ўладальніку.

### За тысячу

**МАЛАДЗЕЧНА. Малады чалавек адабраў тысячу ў школьніка.**

Гэта здарылася 4 красавіка а палове 11-й гадзіны вечара каля сярэдняй школы №8. Злодзей ужо быў асуджаны і на волі знаходзіўся 25 дзён.

### 100 кілаграмаў свініны

**МАЛАДЗЕЧНА. У жанчыны з вёскі Чарты ўкралі 100 кілаграмаў свініны.**

Узімку яна закалола кабана і захоўвала мяса і вырабы з яго на гарышчы. Напярэдадні Вялікадня вырашыла праверыць запасы...

### На пару

**МАЛАДЗЕЧНА. У раёне сярэдняй школы №8 у маладзечанца выкралі мабільны тэлефон. Зладзеяў знайшлі праз 20 хвілін.**

Імі аказаліся 20-гадовы хлопец і 19-гадовая дзяўчына.

**По зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

### Няўдалае купанне

**ВІЛЕЙКА. Чацвёртага красавіка ў Віліі затануў 27–гадовы гараджанін.**

Купальны сезон ён адкрыў хутчэй за ўсё ў заклад, не думаючы, што жарт можа абярнуцца трагедыяй. На месца здарэння выязджалі супрацоўнікі РАУС, выратавальнікі, вадалазы. Цела тапельца пакуль не знойдзена.

### Адабралі сотавы

**ВІЛЕЙКА. Сотавы тэлефон адабралі ў гараджаніна А.**

Здарылася гэта ў мінулую суботу, ля поўначы. Невядомыя не толькі пазбавілі яго сродку сувязі, але і пабілі.

**Па міліцэйскіх зводках падрыхтавала Марына СЛІЖ.**

### Сякера як аргумент

**АШМЯНЫ. 30-гадовай жыхарцы вёскі Семернікі не спадабалася, што муж, які быў на добрым падпітку, узяў на рукі іх двухмесячнае дзіця.**

Падчас сваркі і бойкі, у 9 гадзін вечара, жонка ўдарыла мужа не менш чатырох разоў па галаве вастрыём сякеры. Вынік – пераломы чэрапа і мноства рубленых ранаў галавы, якія жанчына тут жа паспрабавала зашыць шаўковымі ніткамі. І толькі раніцай выклікала хуткую дапамогу. Мужчына знаходзіцца ў рэанімацыі.

### Смяротнае падзенне

**АШМЯНЫ. Мужчына 1968 года нараджэння ўпаў з падводы. Вынік сумны.**

Здарэнне адбылося каля вёскі Кракаўка. Пацярпелы ехаў на кані з сябрам. Конь, спалохаўшыся машыны, якая праязджала міма, панёс іх. Мужчына атрымаў адкрыты пералом чэрапа і памёр у рэанімацыі. Сябар не пацярпеў.

### Размова сваякоў

**АСТРАВЕЦ. У ноч на 2 красавіка ў вёсцы Тракелі пасля сумеснай п'янкі 20-гадовы хлопец зарэзаў свайго дзядзьку.**

Пляменнік нанёс больш за 10 удараў нажом, даўжыня ляза якога ўсяго 2 сантыметры. Гаспадар хаты, страціўшы шмат крыві, памёр на месцы.

### Чэчэнскі след

**АСТРАВЕЦ. 5 красавіка супрацоўнікі РАУС сумесна з аддзелам ДАІ ў вёсцы Варона затрымалі двух грамадзян Чэчні, якія спрабавалі незаконна перайсці з Беларусі ў Літву.**

Затрыманых даставілі ў пагранічную камендатуру.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ КОНКУРСЫ

# «Залатыя пёры»



Дыпламанты Маладзечанскага гарадскога конкурсу маладых журналістаў «Залатое пяро» Насця Нарэйка, Аляксей Таратута, Карына Лявонцьева (верхні рад), Валянцін Цішко, Наталля Кезік, Вікторыя Крупянькова (ніжні рад). Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Журы трэцяга гарадскога конкурсу маладых журналістаў «Залатое пяро» 1 красавіка ўзнагародзіла прызёраў і дыпламантаў. Усе заснавальнікі – "Рэгіянальная газета", Цэнтр пазашкольнай работы, "Маладзечанская газета" – падрыхтавалі свае прызы, таму падарункаў было многа.**

Конкурс быў прысвечаны 615-годдзю Маладзечна і меў агульную тэму «Горад, сэрцу дарагі». Журналісты-школьнікі маглі пісаць пра горад будучыні і пра гісторыю Маладзечаншчыны, пра беларускую мову, пра вядомых і не вельмі жыхароў горада.

Спачатку заахвочвальнымі прызамі і сертыфікатам ад "РГ" былі адзначаныя дыпламанты конкурсу Наталля Кезік, Карына Лявонцьева і Вольга Кур'янчык. Затым прызы, сертыфікаты ад "РГ" і граматы за трэцяе месца атрымалі Валянцін Цішко (СШ №11) і Насця Нарэйка (Маладзечанская беларуская гімназія), а Вікторыя Крупянькова (гімназія №6) – за другое.

Стаў пераможцам і атрымаў, акрамя прызоў, «залатое пяро» вучань выпускнога класа СШ №14 Аляксей Таратута. Тэму работы (ён напісаў пра вядомага мастака з Маладзечна Кастуся Харашэвіча) яму падказала настаўніца беларускай мовы і літаратуры Галіна Гусева.

Напрыканцы сустрэчы маладыя журналісты падзяліліся сваімі ўражаннямі. "Сёння ў мяне ўзвышаны настрой, – сказаў Аляксей Таратута. – Раней я не планаваў стаць журналістам. Магчыма, пасля гэтага конкурсу мае планы зменяцца".

**Святлана ЦІШКО.**

■ СПОВЕДЗЬ

# Мець работу – шчасце

**– Мяне завуць Максімчыкава Таццяна Сцяпанаўна, – гучыць у памяці крыху напалоханы мой голас.**

Здаецца, вечнасць прайшла з той цёплай жнівеньскай раніцы, калі па размеркаванні раённага аддзела адукацыі я прыехала ў вёску Дубравы. Ахутаная туманам, яна была падобная на забыты Богам і людзьмі святы куточак беларускай зямлі. Цішынёй і спакоем, светлым роздумам і простай жыццёвай радасцю веяла ад палёў абапал дарогі, драўляных хат, разбуранага касцёла.

Час спыняўся, калі я выходзіла на асфальтавую сцюжку дарогі, што вяла ад станцыі да вёскі, і 45 хвілін пераставалі існаваць як фізічная велічыня – вымяраліся бясконцасцю неба і думак.

Задумацца было над чым: на пасаду намесніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце прызначаюць не кожнага выпускніка універсітэта. Вось толькі ганарыцца сваёй пасадай мне не выпадала. Так склаўся лёс. Зволніўся ў сувязі з пераводам былы намеснік, і мне далі магчымасць выбіраць.

Я выбрала адзіноту...

Калі твае падначаленыя – настаўнікі сталага ўзросту, калі адны пазбягаюць сустрэч з табой, хаваючы сваю крыўду на лёс, а іншыя, не тоячыся, пазіраюць з усмешкай, маўляў, цікава, чым усё гэта скончыцца, галоўнае у такім выпадку – выжыць. І я выжывала. Не жыла, а чакала, калі закончыцца тыдзень, чвэрць, год.

Стрыманасць і тактоўнасць у адносінах да настаўнікаў нарэшце зрабілі сваю справу. Да мяне прывыклі. Я стала «сваёй» Сцяпанаўнай. Але сэрца непакоіла думка пра марнасць і неабрэсленасць майго жыцця. Душа чакала пераменаў. І яны прыйшлі. Не, не прыйшлі, а ўварваліся і паклікалі ў Вілейку.

...Так пашыралася геаграфія майго жыццёвага шляху: нарадзілася ў вёсцы Ліцвінавічы Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. 1991 год сустракала разам з бацькамі, братам і сястрой у вёсцы Алёхнавічы Маладзечанскага раёна, куды сям'я пераехала жыць, вучылася ў Мінску (БДПУ імя Максіма Танка), працавала ў Дубравах. У Вілейцы спадзявалася затрымацца надоўга, ды не пашанцавала. Два месяцы прайшлі ў пошуках працы...

Адчай беспрацоўнага можна параўнаць хіба што з адчаем самагубцы. Нейк непрыкметна прыходзіць адчуванне, што ты ўжо іншы, не такі, як усе. І тады са здзіўленнем азіраешся навокал і бачыш упершыню заўважаеш людзей. Яны спяшаюцца на работу, стомленыя вяртаюцца дадому. Здаецца, ніводны з іх не разумее, якое гэта шчасце – мець работу. Не ўяўляе, як, трацячы апошнюю надзею, можна адчыняць дзверы розных арганізацый, углядацца ў незнаёмыя твары: а раптам гэта твае будучыя супрацоўнікі. І зноў ісці дадому. Безліч разоў пракручваць у збалелай галаве: «Не», «Не патрэбныя», «Спачуваем, але...», «Сваіх няма куды падзець». І ніхто не дапаможа. Твае праблемы, твой сорам, твой страх. Твае вар'яцтва...

З гэтага года працую педагогам-арганізатарам у адной маладзечанскай школе. І толькі часам да мяне прыходзіць страшны сон: я спазняюся на аўтобус, які павінен адвезці мяне на работу.

Не ведаю, што чакае мяне за новым жыццёвым паваротам. Вучуся адночасова прымаць усё – і шчасце, і адзіноту...

**Таццяна МАКСІМЧЫКАВА.**

**Ад рэдакцыі.** Таццяна Максімчыкава зволнілася з маладзечанскай школы. "Гэта вельмі добры, адказны і добрасумленны работнік, – сказаў "РГ" у інтэрв'ю па тэлефоне дырэктар гэтай навучальнай установы. – Хто яе возьме на працу, ніколі не пашкадуе". Ён растлумачыў, што Таццяна Максімчыкава па-ранейшаму жыве ў Вілейцы і ездзіць штодня на дызелі на працу і назад цяжка.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Што было б са мною, калі б мае валізка й сумачка не знайшліся! Асталася б я бяз грошай, без дакумэнтаў, без харчовых картачак і без білета на далейшае падарожжа. З гэтай немкай спаткалася я дзесяць гадоў пазьней у лагеры на Сібіры.

Зь Пітніц адправілі мяне ў Дэсаў, дзе прабывала ў лагеры Вэра. Зразумела, што да Вэры я ехала зь вялікай радасьцю. Ня бачыліся мы доўга. Пры лагеры была школа для беларускіх дзяцей, і я пачала працаваць у ёй настаўніцай беларускай мовы. Вучыла беларускіх дзетак. Работа прыемная, і я была вельмі зь яе задаволеная. На жаль, цешыцца мне прыйшлося нядоўга. Пасьля тыдня ці двух паклікаў мяне начальнік лагера й загадаў зараз-жа лагер пакінуць. Дзяцей вучыць забараніў. Засталася я ў лагеры скрываючыся, бо куды было йсьці, дзе падзецца на чужыне. Даведаліся ўлады лагера, што я не выехала. Ізноў паклікаў мяне начальнік, загадваючы неадкладна выехаць. Доўга не разумела я, чаму да мяне чапляліся й нідзе не давалі работы, і толькі пасьля вайны зразумела, што пашкодзіла мне карэспандэнцыя мая з Аляксандрам Калодкай — вязьнем нямецкага канцлагера, да якога пісала я ня толькі лісты, але й пасылала харчовыя пасылкі.

Будучы ў Дэсаў, перажылі мы вялікае бамбардаваньне горада, які быў зусім разьбіты. Згінула многа людзей, а ў нашым лагеры ўсе ацалелі. Страху было многа. Цэлы тыдзень горад гарэў. Дрэвы вакол лагера былі павырываны з каранямі. Будучы ў Бэрліне, таксама кожную ноч бегала я ў схроны ад бомбаў. Была сьведкам найвялікшага бамбардаваньня ў лютым 1945 года, калі разьбілі Аляксандэрпляц і акалічныя вуліцы. У тым часе якраз я й знаходзілася на гэтым пляцы. Схавалася ў мэтро. Уся зямля дрыжэла, удрыгвалі сьцены мэтро ад узрываў бомбаў. Калі ўсё супакоілася й выйшла я з мэтро на вуліцу, было цёмна, як ноччу, хаця налёт адбыўся ў самы поўдзень. Трамваі, аўтобусы, дамы — усё кругом гарэла. Бомбы яшчэ ўзрываліся й нельга ніяк было дайсьці да свае кватэры. Куды я ні кінулася, усюды валіліся дамы й выбухалі бомбы.

З Дэсаў я сама ня выехала, бо пару дзён пасьля загаду начальніка пакінуць лагер немцы ўсіх нас — а было людзей у ім сем тысяч — выгналі з рэчамі ў лес, 15 км ад лагера (рэчаў маглі ўзяць столькі, колькі змаглі несьці).

Помню, была нядзеля, як прыбеглі ваенныя й загадалі ўсім разам са сваімі рэчамі выходзіць перад баракамі. Калі мы павыходзілі, пастроілі нас пяцёркамі й пагналі перад сабою, уперад на ўсход у кірунку Рословаў-Цэрбст.

Выйшлі мы з лагера поўднем, а затрымаліся, калі ўжо зусім было цёмна. Знайшліся ў густым лесе. Далей ісьці нельга было, бо перад намі быў агонь — гарэў горад Цэрбст. Заўважылі мы, што зьнiклі вартаўнікі, якія нас усю дарогу гналі. Ня ведалі мы, куды яны нас вядуць, і ўсяк думалася. Прыходзілі і такія думкі ў галаву, што гналі нас на расстрэл.

Убачыўшы, што няма каля нас стражы, рассыпаліся мы ўсе па лесе, шукаючы месца на адпачынак. Было гэта ў палове красавіка 1945 года. З намі былі малыя дзеці. Пераначаваўшы пад адкрытым небам, раніцаю пачалі шукаць чым пажывіцца — былі галодныя. Хлопцы зглядзелі на полі капцы бульбы. Раскапалі й прынесьлі нам яе. Гатавалі мы бульбу ў жаўнерскіх шлемах, якіх поўна было ў лесе. Знайшлі мы дзесь і нейкай чырвонай солі, пазьней пакапалася шчаўе. Каб сагрэцца, пачалі капаць мы ямы і ў іх хавацца ноччу ад холаду. Праз некалькі дзён пачалася над нашымі галовамі перастрэлка; наступала савецкая армія, а немцы бараніліся. Мы хаваліся ад куляў у ямы. Выходзілі зь іх, калі стрэльба супакойвалася. Вось, выйшаўшы, знайшлі мы многа забітых коней. Пачалі мы пячы на агні каніну й есьці. Якая яна была смачная! І так пражылі мы ў лесе два тыдні, аж да канца вайны. Выйшаўшы зь лесу, калі зусім супакоілася страляніна, убачылі на дарозе, на машынах амэрыканцаў. Пастанавілі ўсе вярнуцца ў лагер, зь якога нас выгналі немцы. Разам з намі была Лена Воўк-Левановіч з Мядзьведзіч, якую мы вельмі любілі. Рашылі разам трымацца, дзе б ёс нас ні кінуў, усюды йсьці разам. Разам мы спалі, разам елі, разам бедавалі. І вось, калі мы перапраўляліся назад у Дэсаў, адзін з малышоў разьбіў сабе нагу й затрымаўся, бо ня мог ісьці далей. Затрымаліся пры ім Вэра са мною. Тым часам наша Лена гэтага не заўважыла й пайшла наперад. Бачачы, што яе каля нас няма, папрасілі мы Янку Жамойціна дагнаць яе й сказаць, што сталася. Ён пабег за ёю. Дагнаў яе за мостам на Эльбе, які, як толькі яны перайшлі, немцы ўзарвалі. І так рака нас разьдзяліла. Лены мы больш ня ўбачылі й да сёньняшняга дня ня ведаем, што зь ёю сталася.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

■ ХУТКА ЛЕТА

# На адпачынак – у любым напрамку!

**Наш рэгіён знаходзіцца паміж дзвюма найбуйнейшымі зонамі аздараўлення і рэкрэацыі (рэкрэацыя – адпачынак, аднаўленне сіл пасля працы) Рэспублікі Беларусь. Гэта – нацыянальны парк "Нарачанскі" і зона Заслаўскага вадасховішча. Але кожны з гэтых аб'ектаў мае сваю спецыялізацыю і асаблівасці.**

Зона адпачынку Заслаўскага вадасховішча ўяўляе сабой асноўнае звяно для кароткатэрміновага аздараўлення жыхароў нашай сталіцы. Займае тэрыторыю 16,5 тысячы кв.км. Сюды ўваходзяць таксама вадасховішчы Крыніца і Дразды. Лясістасць зоны складае 30%, а разлічана яна на адначасовае знаходжанне 150 тысяч чалавек (тэарэтычна – гэта Маладзечна разам з раёнам). Непасрэдна на пляжах можа грэць бакі да 35 тысяч чалавек адначасова. Да 60% ад усіх адпачываючых выязджае сюды на 1 дзень. 1% застаецца з начоўкай. Астатніх "разбіраюць" турыстычныя і санаторна-курортныя ўстановы.

У сувязі з такой нагрузкай на 1/5 плошчы мясцовых лясоў адбываецца распад карэнных біяцэнозаў (біяцэноз – гэта сукупнасць жывёл, раслін, грыбоў і мікраарганізмаў, якія сумесна насяляюць участак сушы або вадаёма). Глеба ля вадасховішчаў да глыбіні 15 см зведвае празмерны ціск. Самі адпачываем, а вось прыродзе ад нас адпачынку няма.

Адпачынак ля вады – адзін з самых папулярных. Фота Delta -MM.corp.

Другі аб'ект для адпачынку – нацыянальны парк "Нарачанскі", які займае значную частку Мядзельскага раёна. Мае кліматычна-бальнеалагічнае значэнне. Сульфатна-хларыдна-натрыевая вада мясцовых крыніц па ўласцівасцях падобна на воды курорта Трускавец. Лясістасць складае прыкладна 50%. Саснякоў – 81%. Возера Нарач мае каля 8,5 км пляжу.

Большасць ахвотных адпачыць праводзіць тут па некалькі дзён. У 80-я гады мінулага стагоддзя на Нарачаншчыне кожны год бывала па 100 тысяч чалавек (92% жыхароў Мінска і Мінскай вобласці, 8% – з іншых рэгіёнаў Беларусі, 20% – з-за яе межаў). У наш час павялічылася доля тых, хто прыехаў для аздараўлення з чарнобыльскіх раёнаў. Такім чынам, хаця антрапагенная нагрузка тут меншая, чым на Заслаўскім вадасховішчы, але яна больш раўнамерна размеркаваная па часе. Тым горш, што запаведных зон у нацыянальным парку "Нарачанскі" – няма. Дзеля прыкладу, запаведныя зоны ў нацыянальных парках "Прыпяцкі" складаюць 47,1, "Белавежская пушча" – 17,8%, "Браслаўскія азёры" – 3,7%.

Але як бы там ні было, адпачываць ёсць дзе. Засталося толькі зарабіць грошы.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ НАВІНЫ

## Для сябе і суседзяў

**МЯДЗЕЛ. Семінар па агратурызму правялі ў вёсцы Камарова.**

Бралі ўдзел у ім каля 40 чалавек. Прытым не толькі мясцовыя людзі: прыехалі і суседзі з Астравецкага раёна. Сярод выступоўцаў была кіраўнік асацыяцыі "Агра- і экатурызм" Валерыя Кліцунова.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## З рыбалкай пачакай

**Ад 1 красавіка да 30 мая дзейнічае забарона на лоўлю рыбы ў рыбных угоддзях Мінскай вобласці, што звязана з нерастам рыбы.**

Пра гэта нам паведамілі ў Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету. Згодна з пастановай Мінпрыроды, **аматарская лоўля рыбы дазваляецца толькі з берага адной паплаўковай вудай ці спінінгам удзень на наступных вадаёмах:**

**У Вілейскім раёне.** Вілейскае вадасховішча на ўчастку ад вёскі Рабунь да вёскі Сосенка. На Віліі на ўчастку ад Вілейскай электрастанцыі да вёскі Даманава. На рацэ Сэрвач – на ўчастку ад вёскі Малышкі да вёскі Людвінова.

**У Маладзечанскім раёне і Маладзечне.** Рака Уша – на ўчастку ў межах граніц горада Маладзечна.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ЛЕС

## Дуб – помнік

**АСТРАВЕЦ. Кіраўніцтва Гродзенскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання выступіла з прапановай аб'явіць помнікам прыроды 500-гадовы дуб-велікан, які расце ў лесе недалёка ад вёскі Спонды.**

Астравецкі дуб можа стаць дастойнай заменай засохламу сёлета 700-гадоваму дрэву-патрыярху са Свіслацкага раёна. Яго малодшы брат па параметрах і прыгажосці ні ў чым не саступае старэйшаму. Стаіць на ўзлеску, на прасторнай паляне, выклікаючы непадробнае захапленне ў мясцовых жыхароў і прыезджых. Плошча сячэння яго ствала – 6,6 метра, шасцёра дарослых мужчын ледзь абхопліваюць яго. Вышыня кроны – каля 30 метраў.

Дубовыя гаі на Гродзеншчыне – не рэдкасць, хаця засталіся іх вельмі нялёгка. Адзін з самых буйных – у тым жа Спондаўскім лясніцтве, дзе "прапісаны" і новы прэтэндэнт у дубы-помнікі. Праўда, доўгажыхароў, падобных да свіслацкага або астравецкага, можна пералічыць на пальцах адной рукі. Аднак нямала дрэў, узрост якіх дасягае 300–400 гадоў.

У суседняй Польшчы дрэвы-доўгажыхары даўно ўзятыя пад ахову дзяржавы. Яны ўпісаны ў турыстычныя маршруты, да іх прыходзяць людзі, таму што месцы, дзе растуць старажылы лесу, на думку вучоных, валодаюць асаблівай, гаючай энергетыкай.

**Паводле БелаПАН.**

■ ПРАФЕСІЯ

# Назіраюць за надвор'ем

**ВІЛЕЙКА. Вы хочаце ведаць, якая тэмпература паветра была 16 красавіка трыццаць гадоў таму? Тады тэлефануйце ў Вілейскую метэастанцыю, дзе усе дадзеныя аб надвор'і захоўваюцца з 1945 года.**

"Назіранні, — расказвае метэаролаг **Тацццяна Церах**, — мы вядзём круглыя суткі. Кожныя тры гадзіны дзяжурны спецыяліст выходзіць на пляцоўку і пры дапамозе спецыяльных прылад вызначае атмасферны ціск, напрамак і хуткасць ветру, тэмпературу і вільготнасць глебы, атмасферныя ападкі, воблачнасць. Не пакідаем без увагі і атмасферныя з'явы: зімой фіксуем мяцеліцу, летам — навальніцу, а яшчэ – расу, іней, туман..." Дадзеныя метэаролагі накіроўваюць у Мінск, дзе яны апрацоўваюцца і дапамагаюць складаць прагнозы надвор'я.

Не адзін год працуюць у калектыве Вілейскай гідраметэастанцыі метэаролаг Тацццяна Церах і аграметэаролаг Ірына Гейна. Фота Марыны СЛІЖ.

У калектыве метэаралагічнай станцыі 6 чалавек: метэаролагі **Тацццяна Церах, Ларыса Валынец, Таіса Чуковіч, Валянціна Наваходская**, старшы метэаролаг **Ніна Карзюк** і тэхнік-аграметэаролаг **Ірына Гейна**. Работы шмат, толькі паспяваў спраўляцца. А вось ноччу, як прызнаюцца жанчыны, часам бывае страшнавата. Асабліва ў непагадзь, калі за акном цемень, натужна гудуць дрэвы, шуміць дождж, а табе, нягледзячы на ўсё гэта, трэба ісці рабіць замеры.

Размешчана гідраметэастанцыя ў аддаленым ад горада месцы, на беразе вадасховішча. Летам цесна ад адпачываючых, а зімой, ледзь паспее развіднець, на лёдзе займаюць свае месцы рыбакі. "Мароз бывае такі, што за пятнаццаць-дваццаць хвілін знаходжання на вуліцы мерзнуць рукі, – расказваюць метэаролагі. – А яны сабе хоць бы што, па пяцьшэсць гадзін сядзяць нерухома і не мерзнуць".

У абавязках Ірыны Гейны – назіранні за развіццём раслін на палях. Бы той аграном, ездзіць яна з ранняй вясны да позняй восені па палетках, дзе сочыць за развіццём кукурузы, ячменю, жыта, пшаніцы. "Адзіны транспарт сродак, – расказвае жанчына, — веласіпед. На ім і каляшу ад поля да поля. Дарэчы, назіраю за раслінамі, фруктовымі дрэвамі, а таксама глебай, яе прамярзаннем і адтайваннем і зімой. Рада, што сёлета яна была для раслін спрыяльнай".

Навуцы пра атмасферу Зямлі, працэсы і з'явы, якія ў ёй адбываюцца, ствараючы надвор'е і клімат, у Беларусі не вучаць. Каб атрымаць вышэйшую адукацыю, даводзіцца ехаць у Маскву альбо Растоў. Але недахопу кадраў Вілейская гідраметэастанцыя не мае. Многія жанчыны, закончыўшы толькі спецыяльныя курсы, працуюць тут па пятнаццаць, дваццаць гадоў і разбіраюцца ў метэаралогіі не горш за дыпламаваных спецыялістаў. Кажуць, усяму можна навучыцца. Галоўнае, каб было жаданне.

**Марына СЛІЖ.**

## Эканомім рэсурсы

**Калі перафразіраваць адну вядомую думку, можна сказаць: "Не хлебам адзіным жыве краіна, а і ўсімі іншымі рэсурсамі". Калі ж рэсурсы вычарпальныя, іх трэба эканоміць.**

І сапраўды, возьмем, напрыклад, азіяцкія краіны – Ганконг, Сінгапур, Малайзію... Клімат – вечнае лета. А значыць ацяпленне жылля і вытворчасці няма, што зніжае сабекошт тавараў. Плюс па 2-3 ураджаі ў год...

Краінам жа больш халоднага кліматычнага пояса (Японія, Паўночная Амерыка, наша Беларусь, краіны Еўропы) такая "лафа" не свеціць. Таму тут пайшлі (ці павінны пайсці) іншым шляхам. Па-першае, татальная эканомія прыродных рэсурсаў, па-другое, высокія тэхналогіі.

Што тычыцца нашага рэгіёну, то 130-145 дзён у год слупок тэрмометра апускаецца ніжэй за 0 градусаў. Колькасць дзён без маразоў набіраецца дзесьці каля 130-150. Магчымасць натуральнага асвятлення памяшканняў зімой падае да 6 гадзін у суткі, а амаль усе энерганосьбіты мы купляем за мяжой. Натуральна, што эканомія – наш "крыж", і нікуды ад такога раскладу не схаваешся. Трэба вучыцца эканоміць. І чым раней, тым лепш.

У краінах Скандынавіі, напрыклад, уже даўно існуе сістэма факультатываў, дзе дзеці спадчуваюць навуковыя і практычныя веды па энэргазабеспячэнні. Тое ж будзе і ў некаторых навучальных установах нашага горада. Мэта – выхаванне эканамічна і экалагічна адукаваных спажыўцоў. Напрыканцы хочацца дадаць: "Эканоміць не сорамна, сорамна не эканоміць".

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ЖЫЦЦЁВАЕ

# Каб час ды назад павярнуць...

## Сын прыязджае

Верасень у той год выдаўся надзіва халодны і дажджлівы. Стаміўшыся чакаць добрага надвор'я, раніцай Маня загадала мужу разорваць бульбу. "Будзем сядзець, наогул зазімуе", — катэгарычна заявіла яна і, накінуўшы на плечы плашч, пайшла збіраць кашы.

Юзік не працівіўся. Пражыўшы з жонкай больш за дваццаць гадоў, ведаў, што пераконваць яе, пустая трата часу. Усё адно нічога не паправіш, толькі непрыемнасцей на сваю галаву нажывеш. Будзе пасля ўвесь дзень клясці, а затым яшчэ столькі ж маўчаць, нібы вады ў рот набраўшы.

Не паспелі й двух градак выбраць, як прамоклі да сподняй бялізны. "Хопіць на сёння, — прызнала сваё паражэнне Маня, — так не доўга і запаленне схапіць". І першай падалася ў двор. Але не паспеў Юзік ссыпаць бульбу ў мяхі, як тая ўжо бегла назад. "Сын, сын прыязджае", — яшчэ здалёк закрычала жанчына і памахала бланкам тэлеграмы.

Цэлы вечар яна мыла, прыбірала ў хаце. Пасля, ледзь не да раніцы, варыла і пякла. Хацела сустрэць свайго марака з арміі, а служыў Віцька ў Ленінградзе, з шыкам. Ды і суседзяў, радню паклікаць, як-ніяк тры гады не было дзіцяці дома.

У 10 гадзін раніцы яны ўжо стаялі на аўтобусным прыпынку. "Прыедзе,— узяўшы Юзіка пад руку, планавала Маня, — адразу ж жэнім. На суседскай Галі. Добрая, працавітая дзяўчына, ды й работа ў яе не так сабе, бібліятэкарка. Грошы ў нас ёсць, тыя бацькі памогуць, глядзіш, кватэру ў горадзе пабудуем, машыну купім. Хай жывуць, катаюцца сабе".

Збыцца іх марам было не суджана. Віцька прыехаў дадому не адзін, з жонкай. "Знаёмцеся, гэта мая Зоя"— падвёўшы да бацькоў невысокую, худзенькую дзяўчынку, прадставіў ён. Маня адразу пачырванела, пасля пабялела і нават не падала рукі, каб павітацца. Зірнуўшы на сына, пасля на разгубленае дзяўчо, сітуацыю выправіў Юзік. Падышоў, пацалаваў адразу сына, затым — нявестку і, молада падхапіўшы чамадан, павёў дадому.

"Чаго ты, маці, як не рада ўсё адно, — пытаўся Віцька. — Калі з-за Зоі, то я спецыяльна вам не пісаў, хацеў сюрпрыз зрабіць. Яна добрая, ціхая, пасябруеце, будзе табе як дачка. У яе ж, акрамя нас, нікога няма, у дзіцячым доме вырасла".

Вечарам сабраліся госці. Гамanілі, спявалі. Маня, падціснуўшы вусны, сядзела, бы на памінках. А раніцай, падняўшы маладых чуць свет з ложка, загадала ісці капаць бульбу. "Віця, пакажы, пакуль маці няма, як гэта рабіць,— папрасіла разгубленая Зоя. Я ж ніколі не капала". Яна старалася з апошніх сіл. Ні на хвіліну не прысела адпачыць, нават палуднаваць не пайшла, толькі б дагадзіць свекрыві. А тая яе проста не заўважала.

## Пад адным дахам

На выхадныя прыехала Віктарава сястра, Лена. З якой мальбой у вачах глядзела на яе Зойка, як чакала, што тая падыдзе, прапануе сяброўства. Толькі памылілася. Дзяўчына не сказала ёй ні слова, не ўзяла і падарунка, які нявестка везла з далёкага Ленінграда. "За што ты так, — абурыўся Віктар. — Яна ж ад сэрца". "Не патрэбна тут ні яна, ні яе сэрца", — холадна кінула Лена і стала збірацца ў дарогу. Маўляў, у сваім доме жыцця не даюць.

"Інтэрнатаўка, гадзюка, недамерак, — крычала Маня на ўсю вёску, — гэта ж трэба, выгнала дзіця з хаты. Думае — гаспадыня, думае – як адурачыла хлопца, абвяла вакол пальца, дык усё тут яе. Іш, зараза расейская". Слухаючы лямант свекрыві, нявестка горка плакала.

Праз некалькі месяцаў Маня даведалася, што Зойка цяжарная, і адлучыла маладых ад стала. Умееце дзяцей раджаць, самі іх і карміце, а ў мяне яшчэ Лена ёсць, ёсць каго парадкаваць. Сын пачуў гэту навіну, калі вярнуўся з работы. "Віця,— шаптала жонка, — я нават нічога табе зварыць не змагла. У нас жа ні каструль, ні талерак няма. А прасіць пабаялася". "Мама, ты чалавек ці не, — не вытрымаў Віцька, — што яна табе зрабіла, дзе дарогу перайшла. Навошта ты над ей здзекуешся. Я ж усю сваю зарплату табе аддаю, ці яе на нас дваіх не хапае?".

На наступны дзень маладыя паехалі ў горад разам. Віктар пайшоў на працу, а Зойка цэлы дзень калясіла па магазінах у пошуках посуду, лыжак, ціха радуючыся, што бог даў розуму не аддаць свекрыві накопленых яшчэ ў Ленінградзе грошай. А дома чакаў яшчэ адзін сюрпрыз: свякроў забрала з ложка падушкі і коўдру, зазначыўшы, што нявеста павінна мець усё сваё. Назаўтра Зоя купіла ў сваім, вясковым магазіне коўдру і адну падушку. На другую не хапіла грошай. "Што, інтэрнатаўка, на падушку не зарабіла, на адной спіцё, — усё не магла ўтаймавацца Маня. Забірай яе і едзь адсюль, пакуль цэлая. Не даводзь да граху". Нявестка, закусіўшы губу, маўчала. Яна даўно ўжо навучылася саступаць. Не таму, што не ўмела за сябе пастаяць. Цярпела дзеля Віці, якому было горш удвая. Вёз жонку, ехаў сам да бацькоў, а трапіў – у пекла.

У красавіку Зоя нарадзіла дзяўчынку. Маня так ні разу і не наведала яе ў бальніцы. Больш таго, забараніла везці ў хату. Маўляў, я хворая, у мяне нервы, а тут дзіця дзень і ноч пішчаць будзе. Тут ужо не вытрымаў Юзік. "Гані, гані ўсіх вон. Дзеці пойдуць, я на сябе рукі накладу, — крыкнуў ён і, бразнуўшы дзвярыма, выйшаў з хаты".

Калыску для ўнучкі яна загадала паставіць за печкай. А калі нявестку прывезлі з бальніцы, сышла да суседзяў. "Не магу на яе глядзець, – сціскаючы рукі ў кулакі, спавядалася Маня. — Яна мне ўсё жыццё атруціла".

"Паедзем адсюль, — прасіла Зоя мужа. Дашы чатыры месяцы, дарогу вытрымае. Хоць куды, абы далей з гэтай хаты. Яна, ведаеш, што ўчора зрабіла, перарэзала вяроўку, на якой сушылася дзіцячая бялізна. А днём, калі пабегла да суседзяў па малако, насыпала ў каструлю з супам солі...".

"Бедная ты мая, — пагладзіўшы жонку па галаве, сказаў Віця. — Змарылася! Даруй, што не змог цябе абараніць. Можа, праўда і твая. Чужыя людзі іншы раз лепшыя, чым свае".

## Зноў у дарогу

Праз месяц яны пакінулі бацькоўскі дом. Правесці Зойку з Віцем у дарогу выйшла ледзь не ўся вёска. Няшчасная, змахваючы з вачэй слёзы, казалі жанчыны. Напакутавалася. Гэта ж трэба, злыдня гэта, Маня, так ні разу й не дала ўнучачцы малака, не патрымала яе на руках. Да чужых Зойка бегала, за грошы брала, а яна малаком свіней карміла.

...Пуста стала ў хаце пасля ад'езду маладых. "Ну, чаго не радуешся, песні не пяеш, — пытаўся ў жонкі гаспадар. — Цяпер жа месца шмат, хоць танцуй. Ні нявестка, ні сын, ні ўнучка не замінаюць". Маня маўчала. Яна і сама адчула, што з ад'ездам дзяцей як бы нешта страціла. Стаяў на кухні брудны посуд, некалі і свой, і яе мыла Зойка, не было парадку ў хаце. Ды і Юзіка бы падмянілі. Ні спаў, ні еў, стаў злы і раздражнёны.

На Новы год ад сына прыйшла віншавальная паштоўка. Глянуў бацька на зваротны адрас, і балюча зашчымела сэрца. Бач, назад у Ленінград вярнуліся. Паеду да іх, сказаў ён аднойчы сабе, не змагу жыць, пакуль не павінюся.

Вярнуўся Юзік шчаслівы, задаволены, з падарункамі. "Нявестка гасцінец перадала, — накрыўшы плечы вішнёвай шаліноўкай, бегала з двара ў двор шчаслівая Маня. А вось унучачка мая, Дашачка, паказвала яна суседкам фотаздымак, з якога глядзела пухленькая, усмешлівая дзяўчынка. І з гонарам дадавала: на мяне падобная".

"Пазнала ўнучачку, — кпілі суседкі. — Як Ленка дулю паказала, то і Зойка з Віцем добрыя сталі. А чаму ж ім не дапамагла. Усё дачцы аддала. І машына, і кватэра на іх з Юзікам грошы набытыя. А ласкі не ведаюць. Зяць іншым словам, як "баба", цешчу так ніколі й не назваў. Як захварэла, колькі званілі, каб прыехаў, у бальніцу завёз. Так і не знайшоў часу".

## Зойка, даруй

А нявестка тым часам усё слала і слала бацькам пасылкі і грошы. Яна была ўжо не Зойка, Зоя Міхайлаўна, і працавала на вялікай фабрыцы галоўным тэхнолагам. Пры начальстве быў і Віцька. "Даруйце, — пісаў бацькам, — прыехаць не можам. У гэтым годзе Дашка заканчвае інстытут, а Ірына – школу. Будзе таксама паступаць".

"Гэта ж колькі яны ў нас не былі?" — пыталася ў Юзіка Маня. "Чатыры гады Віця з дзецьмі, а Зойка – дваццаць чатыры", — з гатоўнасцю адказваў той і цяжка ўздыхаў. "Не даравала, не даравала, — плакала свякроў. — Купі канверт, Юзік, прабачэння прасіць буду".

"Зоечка, дзіцятка, — вывела на паперы Маня. — Каб час ды назад павярнуць, ці ж я бы так калі зрабіла. Даруй мне, любая мая, крыўдзіла цябе, даруй." Хацела падпісаць "Маці", ды не асмелілася. Крывымі, як першакласніца, літарамі, вывела "Маня".

Зойка летам прыехала. "Прызнайся, чакала гэтага пісьма?" — спыталася свякроў. "Ждала", — адказала тая і змахнула з вачэй слязінку. "Тады давай мірыцца", — першай прапанавала Маня і, абхапіўшы нявестку за шыю, тройчы пацалавала. Пасля пайшла да шафы, дастала маленькую скрыначку, падала Зойцы. "Вазьмі, гэта залаты ланцужок, я табе, як толькі Даша нарадзілася, купіла. А аддаць, дурная баба, не змагла. Вазьмі, дачушка, калі можаш".

Зоя беражліва адчыніла скрыначку, павесіла на шыю ланцужок. Халодны дотык металу напомніў аб холадзе ў іх колішніх адносінах, але крыўды больш не было. У сэрцы засталася толькі шкада. Шкада, што жанчына, якой ў першы дзень сустрэчы ёй так хацелася сказаць "мама", назвала яе дачушкай толькі праз дваццаць чатыры гады.

**Марына СЛІЖ.**

■ ГУТАРКА ПСІХОЛАГА

# Высакамер'е можна перамагчы

**Што замінае чалавеку быць самім сабой, жыць у гармоніі з навакольным светам? Сёння мы пагаворым аб высакамер'і — тым драконе-пачвары, якая пазбаўляе нас радасці жыцця, скоўвае наш унутраны рост.**

Калі ў аснове самазнішчэння ляжыць імкненне да прыніжэння сваёй значнасці, то высакамер'е прымушае чалавека завышаць свае магчымасці, значнасць асобы. Сапраўды, чалавека высакамернага распазнаць вельмі проста. Ён ходзіць дэманстратыўна выпнуўшы грудзі, высока задраўшы нос, быццам вось-вось лопне ад важнасці. Хочацца торкнуць пальцам у яго надзіманыя шчокі і выпусціць лішняе паветра.



**У любой сітуацыі будзьце самім сабой.** Фота Delta -MM.corp.

Праблема высакамерных людзей у тым, што ў глыбіні душы яны на самой справе не вераць гэтай пачвары, якая пераконвае іх, нібы яны лепшыя за ўсіх астатніх. Часам пагардлівыя адчуваюць няўпэўненасць у сабе, губляюць асабістасць. Яны ведаюць, што лгуць навакольным, пры гэтым засцерагаюцца, каб іншыя не пранікі за фасад іх прытворства і не паказалі, што на самой справе перад намі толькі жаласныя разумнікі, плюгаўцы, якія не маюць ніякіх каштоўнасцяў. Больш за ўсё гэтыя людзі баяцца поўнага ігнаравання з боку навакольных, страх выяўлення вядзе да глыбокай адзіноты. Гульня цягнецца да таго часу, пакуль якая-небудзь падзея не сарве з іх маску прытворства. Неадкладна дракон высакамер'я ператвараецца ў супрацьлеглaсць, і на чалавека, які ад яго пакутуе, накочваецца хваля адварочвання ад самаго сябе. Сюрпрыз, што рыхтуе высакамер'е свайму ўладальніку — гэта публічнае зніштажэнне.

Здароўе таксама падвяргаецца разбурэнню пад уплывам высакамер'я. Падхапіўшы прастуду, вы цвёрда працягваеце даказваць, што нейкія балячкі не здольныя адарваць вас ад спраў. Але хвароба ўзмацняецца і ўпартасць можа прывесці на бальнічны ложак. Пастаянная пераацэнка сваіх магчымасцяў перашкаджае заўважаць абмежаваныя рэсурсы вашага арганізма. Ён стамляецца і гэта прыводзіць да няшчаснага выпадку ці хваробы. Тое ж можа ўсадзіць вас за руль, прапусціўшы чарку-другую. Ізаляцыя, адчужэнне, адзінота, нясмеласць — усё гэта стрэс, выклікаваны адсутнасцю пачуцця шчасця, што зніжае супраціўляльнасць вашага арганізма і паслабляе імунную сістэму.

Толькі перамога над высакамер'ем дапаможа вам змяніцца. Вось некалькі рэкамендацый:

— усведаміце, што вы адарваныя ад людзей,

— пакажыце сваю ранімасць і ўспрымальнасць,

— плаціце навакольным сваёй увагай,

— будзьце самім сабой,

— адмоўцеся ад асуджэння сябе самаго і навакольных.

— будзьце роўным сярод роўных.



**Доктар, выкладчыца Маладзечанскага медыцынскага вучылішча**

**Таццяна СКАРНЯКОВА.**

■ З МІНУЛЫХ СУСТРЭЧ

# Адраджэнец з Вішнева

Першая мая сустрэча з айцом Уладзіславам Чарняўскім адбылася ў 1995 годзе. Я адпачываў на летніх канікулах у бабулі. Яна доўгі час ужо рыхтавала мяне да першай споведзі. І вось у адну з нядзель мы пайшлі ў вёску Падбярэззе, дзе ў будыніне былога клуба месціцца касцёл, дакладней капліца. Я быў яшчэ малы, таму мала што разумеў. Калі скончылася імша, Уладзіслаў Чарняўскі пачаў збіраць у адзін гурток усіх прысутных дзяцей, сярод якіх апынуўся і я. Святар задаваў нам пытанні пра рай і пекла, пра Бога і чорта... Усе адказвалі па адным. Так дайшла чарга і да мяне.

— Куды трапіў пасля смерці Гітлер: у рай ці пекла?

— У пекла, — адказаў я.

— Так. А куды трапіў Сталін?

— У рай.

— Не, таксама ў пекла.

Гэты адказ мяне вельмі здзівіў і ўразіў. Тады я нічога не ведаў пра рэпрэсіі...

Каб зразумець, што за чалавек быў Уладзіслаў Чарняўскі, варта пазнаёміцца з яго жыццёвым шляхам.

Нарадзіўся Уладзіслаў Іванавіч Чарняўскі 14 студзеня 1916 года ў Амброжыне, што на Гродзеншчыне, у сям'і селяніна. Першая сусветная вайна вымусіла сям'ю пакінуць родную хату ў вёсцы Біцяняты (Смаргоншчына), таму Уладзіслаў і нарадзіўся «на чужыне». У 1919 годзе яны вяртаюцца дадому. Менавіта ў гэты час хлопчык захварэў на крываўку. Але, незважаючы на хваробу, у 1925 годзе Уладзіслаў ідзе вучыцца. Спачатку хадзіў у польскую школу ў Арлянятах, а затым у Вішнеўцы. У 1929 годзе па прапанове доктара Шыманскага Іван Чарняўскі павёз свайго сына ў гімназію ў Ашмяны. І ўжо ў 1930 годзе, добра здаўшы экзамены, быў залічаны. Але з-за недахопу сродкаў на ўтрыманне быў вымушаны спыніць вучобу. У хуткім часе пасля гэтага памерла маці. Праседзеўшы год дома, Уладзіслаў пайшоў у 5 клас Крэўскай школы. Але і там недавучыўся — перайшоў у Барунскую настаўніцкую семінарыю, дзе правучыўся да 1933 года. Пасля польскія ўлады зачынілі яе. Спрабаваў паступіць і ў школу лётчыкаў у польскім Быдгашы, але няўдала — не ўзялі з-за слабога здароўя. Пасля з дапамогай свайго дзядзькі — ксяндза Францішка Чарняўскага – паступіў у 5 клас Друйскай гімназіі, якую скончыў у 1937 годзе.



Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі.

Фота "Наша вера".

У 1938 Уладзіслаў Чарняўскі залічаны ў навіцыят ордэна Марыянаў. Але хутка перабраўся ў Вільню, дзе стаў навучэнцам Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны пераехаў у горад Укмерге. У пачатку 1942 года зноў вяртаецца ў Вільню і працягвае навучанне ў духоўнай каталіцкай семінарыі.

Нямала перажыў Чарняўскі з-за святарскіх свячэнняў, бо Віленскі архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі адмовіўся яго высвячаць. Зрабіў гэта біскуп Мечыслаў Райніс 24 студзеня 1944 года. І ў гэтым жа годзе ўжо ксяндзом Чарняўскі адправіў сваю першую імшу ў Крэве. У канцы 1949 года ён быў прызначаны пробашчам касцёла Святога Мікалая ў Вільні. Але праз 3 месяцы яго адпраўляюць служыць у горад Укмерге, потым – у Гегужыне, Ёрнішкі, Варэну, Эйшышкі.

Вярнуўшыся на Радзіму, размаўляў з вернікамі і праводзіў службу ў храме па-беларуску. Але ўлады заўжды перашкаджалі яму: доўгі час не хацелі прапісваць у вёсцы Вішнева на Валожыншчыне, куды ён прыехаў працаваць у 1954 годзе. Неаднойчы забаранялі па некалькі месяцаў служыць.

У 1968 годзе па запрашэнні Генерала Айцоў Марыянаў біскупа Часлава Сіповіча а.Уладзіслаў наведаў Рым. У Рыме Папа Павел VI зрабіў яго дарадцам Святой Кангрэгацыі Абрадаў і даручыў перакладаць на беларускую мову Біблію.

З моманту майго хрышчэння прайшло шмат гадоў, але толькі зараз я дазнаўся, што хрысціў мяне а.Уладзіслаў. Лічу для сябе гэта за гонар. Тым больш, што святара можна параўнаць з такім выдатным сынам Беларусі, як Францішак Скарына. Як і Скарына, Чарняўскі пераклаў на беларускую мову Біблію, не зважаючы на ўсе цяжкасці і перашкоды. Ён прайшоў складаны жыццёвы шлях і заўсёды больш клапаціўся пра свой народ, чым пра сябе.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ, Вілейка.**

■ КАЛЯНДАР

**9 красавіка. 105 гадоў з дня нараджэння Льва Літвінава (сапр. Гурэвіч) (1899-1963)**, беларускага рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**9 красавіка. 70 гадоў з дня нараджэння Леаніда Асядоўскага (1934-1990)**, беларускага жывапісца.

**9 красавіка. 60 гадоў з дня нараджэння (1944) Людмілы Сямёнавай**, беларускага канцэртмайстра, заслужанай артысткі Беларусі.

**9 красавіка. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Святланы Абрамовіч**, беларускага мастака.

**9 красавіка. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Алеся Пісарыка** (сапр. Аляксандр Пісарчык), беларускага паэта.

**10 красавіка. 110 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Фрыдмана** (1894-1975), рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**10 красавіка. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Генадзя Матусевіча**, беларускага жывапісца.

**11 красавіка. 85 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Смоліча (1919-1987)**, рэжысёра оперы, народнага артыста Беларусі, народнага артыста Украіны, народнага артыста СССР.

**12 красавіка. 110 гадоў з дня нараджэння Веры Рэдліх (1894-1992)**, расійскай і беларускай актрысы, рэжысёра, педагога, народнай артысткі Расіі.

**12 красавіка. 100 гадоў з дня нараджэння Соф'і Лі (1904-1980)**, беларускага жывапісца, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**12 красавіка. 95 гадоў з дня нараджэння Мацвея Грубіяна (1909-1972)**, беларускага паэта. Пісаў на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах.

**12 красавіка. 70 гадоў з дня нараджэння (1934) Аляксандра Калядэнкі**, беларускага танцоўшчыка, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**13 красавіка. 100 гадоў з дня нараджэння Міхася Модэля** (Мэндэля Моўшавіча; 1904-1980), беларускага крытыка, тэатразнаўца.

**13 красавіка. 60 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Лісіцына** (1944-1973), беларускага паэта. Пісаў на беларускай і рускай мовах.

**15 красавіка. 105 гадоў з дня нараджэння Веры Сурскай** (1899-1952), беларускай пісьменніцы, перакладчыцы, мастака. Пісала на рускай мове.

**15 красавіка. 320 гадоў з дня нараджэння Кацярыны I (сапр. Марта Скаўронская**; 1684 - 1727), расійскай імператрыцы, якая паходзіла з беларускіх сялян Мінскага ваяводства.



Імператрыца Кацярына I.

■ КНІЖНЫЯ НАВІНКІ

## Серыя «Бацькаўшчына»

**МІНСК. Прэзентацыя першай кнігі з новай серыі грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», прысвечанай беларускай эміграцыі, адбылася 2 красавіка ў сталічным Доме літаратара.**

Як паведаміла старшыня рады аб'яднання Алена Макоўская, кніга з назвай «Месца выдання Парыж» зроблена паводле выбраных старонак часопіса «Моладзь», які выдаваўся з 1948 па 1954 гады ў Францыі. Фундатарам гэтага праекта згадзіўся стаць мастак, вядомы грамадскі дзеяч беларускага замежжа **Міхась Наумовіч**, які доўгі час з'яўляўся рэдактарам часопіса і ўзначальваў адну з найбуйнейшых і найстарэйшых арганізацый беларускай дыяспары ў замежжы «Хаўрус». Укладальнікам кнігі стаў **Міхась Скобла**. 440-старонкавая кніга выйшла ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор» накладам 500 экзэмпляраў.

Кніга падзелена на тэматычныя часткі, якія змяшчаюць публіцыстыку беларускай моладзі замежжа таго часу, яе прозу і паэзію, а таксама гістарычныя артыкулы. У дадатак уключаны ўспаміны М.Наумовіча, які памёр 4 сакавіка гэтага года ў Вэльпэне, пад Парыжам, а таксама лісты сяброў арганізацыі «Хаўрус».

Другой кнігай у серыі стане праца маладога гісторыка **Наталлі Гардзіенкі** пра беларусаў Аўстраліі.

**Паводле БелаПАН.**

■ ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Загадкавы Настрадамус

**Калі запытацца ў людзей, ці вераць яны ў прадказанні, то, відавочна, адказы будуць розныя. Адны скажуць, што вераць, другія – што не, а трэція адзначаць, што вераць, толькі не ва ўсе, і што гэта будзе залежаць ад асобы прадказальніка. Сярод апошніх, напэўна, знойдзецца нямала тых, хто ўзгадае Настрадамуса.**

Мішэль Настрадамус нарадзіўся ў 1503 годзе на поўдні Францыі. Пасля вучобы ва універсітэце горада Манпэльс пачаў працаваць доктарам. Ён хутка ўключыўся ў барацьбу з чумой, якая ў той час лютавала ў Еўропе. Яму ўдалося выратаваць ад "чорнай смерці" шмат людзей, а вось жыцці сваіх жонкі і дзяцей ён не ўсцярог. Ва ўзросце сарака чатырох гадоў Настрадамус ажаніўся другі раз – цяпер на багатай удаве. Ён абсталяваў сабе рабочы кабінет, у які ніхто не меў права заходзіць. Тут ён шмат часу прысвяціў вывучэнню кніг таямнічых ведаў. Даследчыкі лічаць, што гэта былі старажытныя папірусы, якія раней знаходзіліся ў храмах Егіпта. Вядома таксама, што пасля запамінання зместу кніг Настрадамус іх спальваў.

У той час з'явіліся першыя прароцтвы французскага доктара. У адным з іх ён прадказваў каралю Генрыху Другому смерць у час правядзення турніру, што пасля і здарылася. Да Мішэля прыйшла слава, дзякуючы якой ён стаў астролагам французскай каралевы Медзічы, а пазней і лекарам караля Карла IX.

Настрадамус ведаў дакладны час сваёй смерці і незадоўга да скanання пабудаваў для сябе грабніцу ў царкоўнай сцяне. У ёй у 1566 годзе ён быў пахаваны, згодна з завяшчаннем, у вертыкальным становішчы. Чаму менавіта так, застаецца загадкай.



**Наколькі падзеі, якія прадказваў Настрадамус, супадуць з рэчаіснасцю, пакажа час. Але ўсё, што адбываецца ў нашым крохкім свеце ўжо зараз, прымушае задумацца...**

"У падарунак" чалавецтву знакаміты астролаг пакінуў "Цэнтурыі" ("Стагоддзі") – кнігу прадказанняў, якія ахопліваюць вялізны перыяд гісторыі: з 1555 да 3797 года. Напісаны "Цэнтурыі" ў форме загадкавых вершаў – катрэнаў.

Якія ж падзеі ўдалося прадказаць Настрадамусу? Іх вельмі шмат: Варфаламееўская ноч 1572 года, трыццацігадовая вайна 1618-1648 гадоў, узлёт і падзенне Напалеона, рэвалюцыі ў Францыі і Расіі, першая і другая сусветныя войны... "Дзякуючы волі боскай" ён прадбачыў увядзенне Грыгарыянскага календара, вынаходствы тэрмометра, паравой машыны, паветранага шара, падводнай лодкі і вадароднай бомбы, адкрыцці паўднёвых мацерыкоў, з'яўленне на палітычнай арэне розных уплывовых фігур.

Прарочыя катрэны "Цэнтурый" – гэта свайго роду рэбусы, сэнс якіх часцяком становіцца зразумелым толькі пасля таго, як названыя падзеі ўжо адбыліся. І ўсё ж, згадзіцеся, найбольшую цікавасць выклікаюць прароцтвы, вядомыя яшчэ да моманту іх здзяйснення. Многія даследчыкі спрабуюць вытлумачыць тыя прадказанні французскага прарока, якія тычацца сучаснасці. На жаль, а, можа, і на шчасце, гэтыя тлумачэнні, як аказваецца потым, часцей за ўсё адпавядаюць рэчаіснасці. А вось румыну В. Іанэску, падобна на тое, удалося падабраць ключык да таямнічых прадказанняў. Ва ўсякім выпадку, каля дзесяці год таму ў сваім інтэрв'ю французскаму часопісу "Пары-матч" Іанэску адзначыў, што пры інтэрпрэтацыі выказванняў Настрадамуса ён памыляецца вельмі рэдка. Так, яму дакладна ўдалося вызначыць даты такіх падзей, прадказаных прарокам, як вывад амерыканскіх войскаў з В'етнама, адстаўка прэзідэнта ЗША Ніксана ў сувязі са скандалам "Уотэргейт", канец палітычнай кар'еры Гарбачова...

**Мікола ЛІПСКІ.**

# ВІНШАВАНКІ

**Таццяну Антонаўну Гаранскую**,
любую жонку і маму,
віншуем з днём нараджэння!



Ты такая у нас во всём мире одна,
Любим, ценим, целуем тебя,
Здоровья и счастья желаем всегда!

Сардэчна віншуем
**Ганну Яўгенаўну Ахрэм** з Вілейкі з 50-годдзем!
Жадаем моцнага здароўя і сямейнага дабрабыту.
Неумолимо мчат года,
Их задержать не в нашей власти.
Так пусть же будет так всегда –
Чем больше лет, тем больше счастья!
*Твае родныя.*

**Мішачку Новікава** ад усяго сэрца віншую з днём нараджэння!!! Сонейка, няхай у тваім жыцці заўсёды будзе месца для ўсмешкі. *Валянціна.*

**Жанна Бажко**! Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю шчасця, здароўя, аптымізму і каб збыліся ўсе твае жаданні. *Маша.*

**Жанну Бажко** віншую з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя і ўсяго найлепшага. *Дачка Яна.*

**Жанну Фёдараўну Ангерчык** сарчэчна віншуем з днём нараджэння! Вялікае дзякуй за шчырую дапамогу. Усіх даброт Вам! *Моладзь МА ГА "ХСДМ".*

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе **Вольгу і Юрыя Рубацкіх** з нараджэннем дачкі. Жадае моцнага здароўя, больш грошай і ўсяго найлепшага.

**Яўгена Муравейку** віншуем з 17-годдзем! Жадаем здароўя, радасці, шчасця, поспехаў у вучобе. *Твая сям'я.*

**Васіля Сяргеевіча Рухлю** віншуем з юбілеем. Жадаем здароўя, дабрабыту, поспехаў ва ўсіх справах. *Сем'і Рухляў і Баннікавых.*

**Святлану Віктараўну Рак** віншуем з днём нараджэння! Няхай жыццё квітнее буйным цветам, бо ўсё самае прыемнае наперадзе. *Сяброўка Ліля.*

**Алену Мікалаеўну Шылко** з в. Залессе віншую з днём нараджэння! Жадаю толькі радасных дзён, здароўя і кахання. *Сяброўка Ліля.*

**Марыю Іванаўну Дамашыц** віншуем з 65-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, радасці і ўсяго найлепшага. *Рагуновіч. Клямяціч. Будай.*

Віншую **сваіх родных са святам Вялікадня**. Жадаю моцнага здароўя, анёла-ахоўніка, Божага блаславлення. *Кацярына.*

**Ірыну Бураву** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, усмешак, дабрабыту, шмат удачы. *Псюкевічы.*

**Ігара Захарава** з в. Мароські віншуем з днём нараджэння. Сямейнага дабрабыту, здароўя, шчасця, усіх зямных даброт. *Ірына, Мікалай Бондары.*

**Алесю Уладзіміраўну Карніловіч** віншуем з днём нараджэння! Доўгага жыцця, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Мама Іра і дзядька Мікалай.*

**Н. Крычко, Н. Вашкевіч, Р. Котава** віншую з Вялікаднем. Жадаю Божага блаславлення, анёла-ахоўніка. *Кацярына.*

**Алесю Карніловіч** віншую з днём нараджэння. Шчасця, удачы, поспехаў усюды і ва ўсім. *Кума Люда.*

**Айца Мікалая Уладыку** віншую з Вялікаднем. Жадаю моцнага здароўя, анёла-ахоўніка, Божага блаславлення. *Кацярына.*

**Мікалай Васільевіч і Марыя Пятроўна Васечкіны**! Віншуем вас з сярэбраным вяселлем! Няхай у вашым доме будзе шчасце і цяпло. *Валянціна Аноп.*

**Мікалай Васільевіч і Марыя Пятроўна Васечкіны**! Віншуем вас з сярэбраным вяселлем! Няхай лёс заўсёды вас саграваае. *Галіна Аноп.*

**Таццяну Леанідаўну Касцевіч** віншую з днём нараджэння. Здароўя, кахання, поспехаў у працы і сям'і. *Кума Света.*

**Кацярыну і Яўгена Адарычэнкаў** віншуем з 2-годдзем сумеснага жыцця. Вечнага кахання і ўзаемаразумення. *Сябры Света, Міша і Танюша.*

**Кацярыну, Яўгена і Дзяніса Адарычэнкаў** віншуем са светлым святам Вялікадня. Усяго вам добрага. *Сям'я Андрашчукоў.*

**Уладзіміра Каспарэвіча** са святам Вялікадня! Здароўя, спагадлівых людзей у Вашым жыцці. *Сям'я Чараповічаў.*

**Ганначку Аўсейчык** з днём нараджэння! Шчасця, кахання, дзякуй, што ты разам з намі. *Дзеці, моладзь.*

**Пробашча Аляксандра Барылу** са святам Вялікадня! Здароўя, шчасця, Боскай ласкі і апекі. *Дзеці, моладзь з Вілейкі.*

**Станіслава Цярэнцьевіча Крывашэя** з Вілейкі віншуем з юбілеем! Ад душы жадаем шчасця, кахання, бадзёрасці і ўдачы! *Сем'і Мандрык і Ганкавіч.*

**Дзімачку Мандрыка** віншуем з днём нараджэння! Расці здаровым, добрым, шчаслівым! *Мама, тата, брат.*

**Валянціну Мікалаеўну Краўчонак** з Вілейкі, любімую дачушку, мілую сястрычку, дарагую цётачку, віншуем з юбілеем! Шчасця табе, наша родная!

**Сняжана Маліноўская**! Віншуем цябе з 11-годдзем. Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе. *Твая бабуля, Наташка.*

**Вольгу і Юрыя Рубацкіх** сардэчна віншуем з нараджэннем дачкі!!! Сонейкі, ўсяго вам самага-самага добрага! *Сябры з МА ГА "ХСДМ".*



# ЗНАЁМСТВЫ

Удавец, 52/170/65, жадае дапамагчы адзінокай, добрай жанчыне. 222310, Маладзечна-3, п/п КН 0848960.

## Купон 15

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ПАРАДЫ АГАРОДНІКА

# Як аздаравіць насенне?

Хворае насенне – першакрыніца грыбковых, вірусных, бактэрыяльных і іншых хваробаў. Каб пазбегнуць заносу інфекцыі з насеннем, яго трэба загадзя аздаравіць ад патагеннай мікрафлоры сонечным абагрэвам. Для гэтага бяруць ліст фанеры ці кусок шырокай дошкі, засцілаюць брызентам ці старой сурвэткай і рассыпаюць насенне тонкім слоем. У сонечнае надвор'е яго выносяць на 4-5 гадзін на адкрытую веранду ці пад навес, а вечарам забіраюць у памяшканне. Насенне пастаянна перамешваюць. Праграванне працягваюць 2-4 сутак і больш. Сонечныя прамяні не толькі абеззаражваюць насенне, але і стымулююць яго прарастанне.

Каб пазбавіцца ўнутранай інфекцыі, насенне морквы і капусты праграваюць на працягу 15-20 хвілін (насенне морквы пры тэмпературы 52-53 градусы, капусты – 48-50). Насенне перцу і баклажанаў праграваюць 25 хвілін пры тэмпературы 50 градусаў, а гароху пры той жа тэмпературы – 5 хвілін. Пасля гэтага яго адразу ж змяшчаюць на 2-3 хвіліны ў халодную ваду, затым добра падсушваюць.

Насенне памідораў супраць вірусных хвароб абеззаражваюць у 1-працэнтным растворы марганцоўкі на працягу 20 хвілін, затым прамываюць у вадзе і прасушваюць.

Агуркі лепш высяваць 2-3-гадовым насеннем, бо за гэты час яны практычна пазбаўляюцца ад віруса.

Насенне агароднінных культур можна абеззаражваць з дапамогай фітанцыдаў часнаку: 25 г мязгі добра перамешваюць ў 100 г вады. Насенне вытрымліваюць у гэтай сумесі ў закрытым посудзе 1 гадзіну, затым прамываюць вадой і прасушваюць.

Для аздараўлення насення можна выкарыстоўваць сок алоэ, разведзены ў 2 разы вадой, ці каравяк (да 1 часткі дадаюць 6 частак вады). Насенне вытрымліваюць у адным і тым жа растворы 6 гадзін.

Насенне ўсіх агароднінных культур перад пасевам карысна апрацаваць растворам мікраэлементаў, пасля чаго яны даюць дружныя ўсходы, а затым і больш устойлівыя да хвароб і шкоднікаў расліны. Для прыгатавання раствору можна выкарыстоўваць гатовыя таблеткі полімікраўгнаенняў ці асобныя ўгнаенні. Калі прымяняюць асобныя мікраўгнаенні, то на 1 л расходуюць па 0,5 г борнай кіслаты, марганцоўкі, сернакіслага цынку, малібдэнавакіслага амонію, 0,05 г сернакіслай медзі, 5 г пітной соды. У растворы насенне вытрымліваюць 24 гадзіны, затым падсушваюць.

Яшчэ прасцей і не менш эфектыўна прымяняць раствор драўнянага попелу. Для прыгатавання раствору бяруць 20 г драўнянага попелу на 1 л вады, настойваюць 1-2 сутак і замочваюць у гэтым растворы насенне на працягу сутак.



**Аграном Альбін МАКАРЭВІЧ.**

## Дыпломы з Польшчы

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскія хлопцы сталі дыпламантамі XI рэгіянальнага конкурсу баяністаў — навучэнцаў музычных школ.**

Конкурс праходзіў 2 красавіка ў горадзе Пётркув-Трыбунальскі (Польшча). Васьмікласнік Дзмітрый Шут адзначаны дыпломам. Шасцікласнік Дзяніс Злобін атрымаў дыплом трэцяй ступені. Абодва дыпламанты вучацца ў Міхаіла Таўгеня.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Куліч

500 г мукі, 120 г цукру, 250 г цукровай пудры, 1шклянка малака, 380 г сметанковага масла, 5,5 чайнай лыжкі солі, 5 яек, 30 г дражджэй, 150 г разынак, 1 сталовая лыжка лімоннага соку, 4 сталовыя лыжкі гарачай вады, масла і мука для формы, цэдра ад паловы апельсіна і лімона, 6 штук рознакаляровага мармеладу для ўпрыгожвання.

Развесці дрожджы ў малацэ з невялікай колькасцю цукру і мукі. Замясіць і даць пастаяць 20 хвілін. Потым дадаць растопленае масла, цукар, яйкі, соль, надзёртую лімонную і апельсінавую цэдру, разынкі і вымесіць цеста. Выкласці яго ў змазаную маслам і пасыпаную мукой форму і паставіць на 30 хвілін падыходзіць. Выпякаць у духоўцы 30-40 хвілін пры тэмпературы 200 градусаў. Гатовы куліч астудзіць у форме, выкласці. З лімоннага соку, цукровай пудры, вады зрабіць памадку, намазаць куліч і упрыгожыць скрылькамі (можна нарэзаць дробнымі кубікамі) рознакаляровага мармеладу.

**Проста МАРЫЯ.**

## Злавіў

**ПІНСК. Незвычайна ўдачнымі апынуліся апошнія тыдні для рыбака з Пінска Анатоля Багаткі.**

Раніцай 5 красавіка ён выцягнуў з ракі Піны шчупака даўжынёй 120 сантыметраў і вагой 12 кілаграмаў. Паводле слоў рыбака, рыба, якая нядаўна аднерасцілася, моцна не супраціўлялася, яе лёгка ўдалося выцягнуць з вады. Дапамога спатрэбілася толькі для таго, каб пагрузіць шчупака на веласіпед, які А.Багатка выкарыстоўвае для паездак на рыбалку.

**Алег СТАЦЭНЯ, БелаПАН.**

## Кінатэатр «Радзіма»



**9-11 красавіка. "Рэальнае каханне"**, ЗША, рамантычная камедыя, 2 серыі – у 18.30 і 21.00. Прэм'ера. "Гонар маю", Расія – у 15.00 і 17.00.
**12-18 красавіка. Прэм'ера. "Тыя, каму не шанцуе-2"**, Францыя, камедыя – у 17.00, 19.00 і 21.00.
**Для дзяцей**
**10-11 красавіка. "Спірыт – душа прэрый"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм — у 13.00.
Кожную суботу ў 21.00 – дыскатэка.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



**Прывітанне! Сёння ў пошце нашага конкурсу толькі тры правільныя адказы. Іх нам даслалі Дзмітрый Пакладок, Юрый Юхневіч і Максім Захарыч з Маладзечна. Усе атрымліваюць білеты ў кіно. Заходзьце.**

Адказы на заданні, прапанаваныя у нумары 13:

1. Так роўнасць 19+20=15 магчымая. Калі да 19 гадзін гэтага дня дадаць 20 гадзін, то атрымаем 15 гадзін наступных сутак!

2. Каб знайсці кучку, складзеную з фальшывых манет, дастаткова толькі аднаго ўзважвання. Трэба з першай кучкі пакласці на вагі адну манету, з другой – дзве, з трэцяй – тры і г.д. Цяпер трэба падлічыць, колькі б гэта колькасць манет важыла ў выпадку сапраўднасці ўсіх манет. Лішняя вага (рознасць) паміж разліковымі дадзенымі і фактычнай вагой будзе адпавядаць нумару кучкі з фальшывымі манетамі. Проста і прыгожа!!!

Наступнае заданне. ШТО ДАЛЕЙ? Так называецца задача. У верхні рад з чатырох фігур трэба паставіць адну з дзесяці пранумараваных з двух ніжніх радоў. Якой фігуры не хапае? Чаму менавіта яе? Калі знойдзеце прыкмету, паводле якой згрупаваліся верхнія фігуры, не будзеце мець клопату для вызначэння яшчэ адной у іхнюю кампанію.




Калі ласка, давайце адказы толькі пісьмова. Адказы прымаюцца на працягу дзесяці дзён з дня выхаду гэтага нумара "РГ" (да 19 красавіка ўключна). Будзе разыграна 5 білетаў.

**Апошні раз падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

■ ІМЯНІНЫ

**9 красавіка**
**Праваслаўныя**: Матроны, Івана.
**Каталіцкія**: Марыі, Марцэля.
**10 красавіка**
**Праваслаўныя**: Іларыёна, Сцяпана, Яўстрата.
**Каталіцкія**: Макара, Міхала.
**11 красавіка**
**Праваслаўныя**: Астапа, Івана, Кірылы, Марка.
**Каталіцкія**: Лявона, Піліпа.
**12 красавіка**
**Праваслаўныя**: Засімы, Сафрона.
**Каталіцкія**: Віктара, Зянона, Людаслава, Юльяна.
**13 красавіка**
**Праваслаўныя**: Іаанны, Апалонія, Веньяміна, Інакенція, Іоны, Іпата.
**Каталіцкія**: Марціна, Пшыбыслава, Пшэмыслава.
**14 красавіка**
**Праваслаўныя**: Марыі, Абрама, Яфіма.
**Каталіцкія**: Людвіны, Юстыны, Валяр'яна, Лямберта.
**15 красавіка**
**Праваслаўныя**: Палікарпа, Ціта.
**Каталіцкія**: Анастасіі, Базыля, Вацлава, Цэзара.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Як пражыць на халяву?

**Усе апытаныя адразу ж адказвалі, што не трэба жыць на халяву. І ўвогуле яна ім непатрэбная. Варта працаваць, як «Я», у сэнсе ён ці яна. Аднак самыя смелыя, праўда, не да такой ступені, каб сфатаграфавацца, адказалі, што не супраць атрымаць вялікую спадчыну, пажадана з-за мяжы, уладкавацца на працу, дзе не трэба нічога рабіць і атрымліваць вялікую зарплату, знайсці забяспечаную ўдоўку ці багатага, прыгожага, разумнага палюбоўніка...**



**Ігар Каваленка, дырэктар фірмы:**

— У студэнцкія гады здаць экзамены, нічога не вывучыўшы, азначала пражыць на халяву. Увогуле, халяву можна знайсці ў Мінску: там больш магчымасцяў і грошай. Мяркую, жыць на халяву не цікава. Калі чалавеку ўсё прыносяць і заносяць — значыць ён хворы.



**Зоя Гатоўка, рабочая:**

— Можа, я і жыву на халяву, толькі аб гэтым не здагадваюся. Зрэшты, не верыцца мне, што яна ёсць. Нават тым, хто працуе і атрымлівае зарплату, цяжка прыходзіцца. А калі гэтага не мець?..



**Кацярына Смаленская, эканаміст:**

— Для гэтага трэба быць нахабным. Такі чалавек можа, не саромеючыся, напрасіцца, перакласці свае абавязкі на плечы іншых. Ці стаць такім выназодлівым, каб людзі не заўважалі, што ты жывеш на халяву.



**Анатолій Сопач, зваршчык:**

— Не працаваць, але атрымліваць грошы. Халяву мае той, хто не хоча мець, альбо дзякуючы чыёйсьці валасатай руцэ. Асабіста мне халява непатрэбна. Я працую 37 гадоў і не шкадую аб гэтым.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 10.4 | 11.4 | 12.4 | 13.4 |
|---|---|---|---|---|
| ападкі (на працягу сутак) | | | | |
| тэмпература, °С днём | +6 | +5 | +4 | +7 |
| ночу | +5 | +6 | +4 | +5 |
| атмасферны ціск, мм | 734 | 737 | 742 | 741 |
| хуткасць ветру, м/сек | 4 | 2 | 3 | 3 |

| Вільня | 10.4 | 11.4 | 12.4 | 13.4 |
|---|---|---|---|---|
| ападкі (на працягу сутак) | | | | |
| тэмпература, °С днём | +5 | +5 | +5 | +8 |
| ночу | +5 | +6 | +5 | +6 |
| атмасферны ціск, мм | 741 | 747 | 749 | 748 |
| хуткасць ветру, м/сек | 4 | 2 | 3 | 3 |

## Чытайце праз тыдзень:

● **Жыхары трох маладзечанскіх кватэр з пачатку года былі выселены ў судовым парадку за сістэматычную неаплату камунальных паслуг і ўтрыманне месцаў пражывання ў антысанітарным стане. Матэрыял Сяргея Зянько чытайце ў наступным нумары.**

## Гараскоп 12 – 18 красавіка



**Авен (21.03–20.04)**

Ваша жыццёвая энэргія павялічваецца, чакаецца прыток свежых сіл. У гэтыя дні вы адчуеце, што многае вам па сілах. Падтрымка ўплывовых асоб і сваякоў значна дапаможа ў справах. Вы будзеце актыўна займацца пошукамі дадатковых крыніц даходу. І сапраўды, з боку знаёмых да вас могуць паступаць цікавыя прапановы. Але будзьце асцярожныя ў прынятці гэтых прапаноў.



**Цялец (21.04–21.05)**

Жаданне лёгкіх грошай, прывольнае жыццё можа прывесці вас да ўдзелу ў фінансавых авантурах. Аднак вашы ідэі наконт заробкаў будуць хоць і арыгінальнымі, але наўрад ці добра прадуманыя. Каб пазбегнуць канкурэнцыі, новыя планы вы будзеце ажыццяўляць тайна, вялікая спакуса падману. Старайцеся праявіць разважлівасць, прыслухайцеся да парадаў мудрых людзей.



**Блізняты (22.05–21.06)**

З'явіцца жаданне праявіць свае творчыя здольнасці: мастацкія, фатаграфічныя і іншыя. Гэты час спрыяльны для бізнэсу, звязанага з мастацтвам, музыкай, забавамі, псіхалогіяй, а таксама для прынятця дзейнага ўдзелу ў грамадскіх мерапрыемствах. Але могуць актывізавацца і цёмныя сілы, якія пацягнуць у свет заганы і пакажуць самыя брудныя бакі жыцця.



**Рак (22.06–23.07)**

Цяпер вам прыйдзецца прыкласці больш намаганняў, чым звычайна, але і вынік будзе лепшым. У гэты перыяд будуць напрацоўвацца трывалыя сяброўскія сувязі, а самі сябры ўспрымацца як блізкія сваякі. Вы паспрабуеце зрабіць са сваёго жылля нешта падобнае на артыстычны ці літаратурны салон. Не ператамляйцеся на рабоце, нават калі вы зусім не адчуваеце стомленасці.



**Леў (24.07–23.08)**

Мэтазгодна развіваць сямейны бізнэс і весці сумесную дзейнасць з братамі і сёстрамі. Пры ўзаемадзеянні з імі вы можаце разлічваць на прыбытак. Дзейнасць можа насіць часовы характар і не абкладацца падаткамі. Варта пазбягаць выкарыстання супрацьзаконных сродкаў дзеля абагачэння і паслуг крымінальных структур.



**Дзева (24.08–23.09)**

Энэргіі космасу дапамогуць вам стварыць добрыя адносіны з кіраўніцтвам і вышэйстаячымі людзьмі, чым кампенсуецца неспрыяльны перыяд у некаторых справах. Узнікшая ўзаемная сімпатыя з начальнікам дапаможа вам прасунуцца па службе ці дасягнуць таго, што іншым недасягальна. З'явіцца цікавасць да заняткаў культурызмам ці аэробікай.



**Шалі (24.09–23.10)**

Лёс дае вам магчымасць вырашыць мінулыя канфлікты, вызваліцца ад іх, што дадасць аптымізму вашаму светаадчуванню. З'явіцца жаданне дасягнуць вялікіх вышынь, славалюбства і амбіцыі. Для дасягнення матэрыяльнага дабрабыту вы прыкладзяце максімум намаганняў. У сваіх паступках варта кіравацца толькі прынцыпамі маралі, інакш страціце больш, чым заробіце.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Медытацыя і кітайская гімнастыка (цы-гун) дапамогуць ураўнаважыць і кантраляваць псіхічны стан. Гэта будзе садзейнічаць нармалізацыі рабочых узаемаадносінаў. У рамантычных кантактах вы станеце нецярплівымі і марнатраўнымі, а крок ад кахання да нянавісці можа стаць вельмі кароткім нават без усялякіх бачных прычын.



**Стралец (23.11–21.12)**

Упэўненасць у сабе і жыццёвая сіла дапамогуць дасягнуць пастаўленых мэтаў і пераадолець перашкоды. Гэта добры час для звяртання да аўтарытэтных і ўплывовых асобаў у пошуках падтрымкі сваіх пачынанняў. Тэма кахання і партнёрскіх узаемаадносінаў можа захапіць вас настолькі, што не пазбегнуць стомленасці. Таму раўнамерна размяркоўвайце сілы на работу, дом, каханне.



**Казярог (22.12–20.01)**

Вы будзеце агрэсіўнымі ва ўсім, што тычыцца сям'і. За вамі будзе выбар – стаць выратавальнікам ці разбуральнікам роду. Захоўвайце этыку адносін. Каб прадухіліць скандал і не захварэць, абавязкова давайце выхад энэргіі. Імкніцеся да гарманізацыі сямейных адносін. Калі будзеце мяняць сябе, вы будзеце мяняць навакольны свет.



**Вадалей (21.01–19.02)**

У гэты перыяд перад людзьмі ўважлівымі адкрыюцца новыя перспектывы, як мяркуецца, — на працы. Рэалізацыя даўніх ідэй здольная прынесці маральнае і матэрыяльнае задавальненне. Будуць паспяховымі камандзіроўкі, нават забаўляльныя паездкі стануць карыснымі. Не варта смяяцца словамі і тым больш – даваць невыканальныя абяцанні.



**Рыбы (20.02–20.03)**

У гэтым перыядзе намячаюцца сямейныя вечарынкі і рамантычныя прыгоды. З'явіцца жаданне ўпрыгожыць жыллё, і вы не пашкадуеце на гэта грошай. Магчыма, некаторыя захапяцца развядзеннем дамашніх раслін, якія ствараюць асаблівую ўтульнасць, пакупкай карцін, статуэтак і іншых упрыгожванняў, якія пераўтвораць інтэр'ер дома.

## Спынілі нелегалаў

**СМАРГОНЬ. Мінулай ночцу непадалёку ад горада супрацоўнікі аддзела Дзяржаўтаінспекцыі мясцовага РАУС і аддзела аховы затрымалі аўтамашыны «Пежо» і «Фольксваген», якімі кіравалі жыхары Мінска.**

Мінчане перавозілі 8 грамадзян Кітая, якія не мелі пры сабе дакументаў, што сведчаць асобу. Замежных грамадзяне змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання Смаргонскага РАУС. Вырашаецца пытанне аб іх дэпартацыі за межы рэспублікі.

**Паводле БелаПАН.**



**Рэгіянальная газета**

**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227 ад 19.08.2003 г. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 5 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж **9540 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№ 15 (468) 9.4.2004.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ.
222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1200. Падпісана ў друк у 13.00 8.4.2004

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667, 53841**.
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284**.
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211**.
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172**.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592.

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**